# Багуслаў Радзівіл

## *Аўтабіяграфія*




R

«Радыёла-плюс»

Мінск 2009

УДК 94(476)(092)+929Радзівіл
ББК 63.3(4Беи)
Р15

Ідэя, канцэпцыя, укладанне і пасляслоўе *Уладзіміра Сіўчыкава*
Прадмова *Генрыка Літвіна*
Падбор ілюстрацый *Хрысціны Сіўчыкавай*

Навуковы рэдактар — канд. гіст. навук, дац. *А. М. Янушкевіч*

Рэцэнзент — канд. філал. навук,
загадчык каф. бел. мовы і літаратуры
УА «Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт» *П. В. Васючэнка*

Выданне ажыццёўлена пры спрыянні
Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Польшча

**Радзівіл, Б.**
Р15 Аўтабіяграфія / Багуслаў Радзівіл; уклад. і пасляслоўе Уладзіміра Сіўчыкава ; прадм. Генрыка Літвіна ; пер. з пол. мовы А. Бутэвіч, Ул. Сіўчыкаў. — Мн.: Радыёла-плюс, 2009. — 212 с.: іл.

ISBN 978-985-448-102-9.

Гэтую кнігу з яе асноўным творам, «Аўтабіяграфіяй», што належыць пяру выбітнага дзяржаўнага і ваеннага дзеяча Вялікага княства Літоўскага князя Багуслава Радзівіла, варта аднесці да «літаратуры факту».

Адрасуецца чытачам, якія цікавяцца еўрапейскай гісторыяй.

УДК 94(476)(092)+929Радзівіл
ББК 63.3(4Беи)

ISBN 978-985-448-102-9



Герб Багуслава Радзівіла (1620—1669),
князя слуцкага і капыльскага,
харунжага ВКЛ (з 1638), канюшага ВКЛ (з 1646).

# Супольная гісторыя

Раз-пораз у навуковых, культурніцкіх і палітычных асяродках узнікаюць спрэчкі — магчымая гістарычная аб'ектыўнасць ці яшчэ ад часоў летапісцаў непазбежныя суб'ектыўнасць з улікам нацыянальных інтарэсаў дзяржаў і выкананне гісторыкамі пэўнага сацыяльнага заказу?

Зразумела, трэба імкнуцца да аб'ектыўнасці, аднак і ўлічваць, што абсалютная аб'ектыўнасць немагчымая хаця б таму, што кожны з гісторыкаў выхаваны ў пэўным асяродку, у пэўных гістарычных, грамадскіх, сямейных умовах. Таму я ніколі не адважыўся б сказаць, што ва ўсіх сваіх работах быў аб'ектыўны. Але стараўся і стараюся не дазваляць сабе не ўлічваць меркаванні іншых бакоў. Невера-годна важную ролю заўсёды надаю першакрыніцам, хаця і іх стваралі людзі, якія часам суб'ектыўна ацэньвалі падзеі, інфармацыю.

Адна з вельмі цікавых крыніц па гісторыі Рэчы Паспалітай і Вялікага княства Літоўскага XVII стагоддзя — «Аўтабіяграфія», напісаная князем Багу-

славам Радзівілам, які паходзіў з біржанскай лініі магутнага магнацкага роду.

Нельга не зазначыць, што дзякуючы раману «Патоп» Генрыка Сянкевіча стаўленне да гэтай гістарычнай постаці ў Польшчы выразна негатыўнае. Але фігура гэтая — складаная і неадназначная. У пэўнай ступені Багуслаў Радзівіл — ахвяра Сянкевіча. Раманіста гэтага я вельмі люблю, але гэта не значыць, што ўсё, што ён напісаў, трэба лічыць выдатным. Сянкевіч вельмі добра ведаў гісторыю, але найперш... выкарыстоўваў яе ў сваёй творчасці і з першакрыніцамі абыходзіўся досыць вольна. Апошняя частка трылогіі Сянкевіча — «Пан Валадыёўскі». У галоўнага героя ёсць там маладая жонка па імені Барбара Езяркоўская. У рамане ёсць і расказ пра гэтую Басю, у якой нібыта былі тры прэтэндэнты на руку і сэрца. Расказчык яе гісторыі падае і прозвішчы прэтэндэнтаў, якія быццам бы загінулі на вайне. Але адзін гісторык, які іранізаваў з Сянкевіча, сцвярджаў, што сапраўдная Бася Езяркоўская перажыла сваіх трох мужоў, і толькі чацвёртым быў у яе Валадыёўскі! У сапраўднай Валадыёўскай насамрэч раней было тры мужы і сапраўдныя іх прозвішчы супадалі з прозвішчамі трох прэтэндэнтаў на руку Басі ў Сянкевіча! Гэта ілюструе, наколькі добра Сянкевіч ведаў крыніцы і як выкарыстоўваў іх на патрэбы сваёй гульні з чытачом. Ахвярай той гульні стаў і Багуслаў Радзівіл. У «Патопе» пісьменніку

быў патрэбны цынічны праціўнік галоўнага героя, як пэўны кантрапункт. Многія літаратары кажуць, што адмоўнага героя лягчэй выпісаць, ён, як правіла, аказваецца больш рэльефным, больш выразным і запамінальным. Але гэта адзін момант. Другі палягае на тым, што Сянкевічу быў патрэбны добры манарх, dobry król, і ён зрабіў Яна II Казіміра добрым каралём. А на самой справе ўплыў караля на гісторыю тагачаснай Рэчы Паспалітай быў абсалютна негатыўны. Ён быў таленавітым палкаводцам, але пасрэдным палітыкам і дыпламатам. Шляхта тады папросту пакінула Яна Казіміра, бо лічыла, што кароль мусіць быць спраўным чыноўнікам, а калі ён не здольны выконваць свае абавязкі як след, дык трэба яго пераабраць. Буйныя магнаты лічылі гаспадарамі дзяржавы найперш саміх сябе. Яны былі ўпэўненыя, што караля можна папросту замяніць, а таму прымалі пратэкцыю шведскага караля Карла X Густава. Але яны не прынялі да ўвагі, што пад націскам мілітарысцкай Швецыі шмат чаго можна было страціць назаўсёды. Было зроблена шмат памылак, перш чым многія зразумелі — трэба вяртацца пад сцягі Яна Казіміра.

Князь Багуслаў Радзівіл — вельмі яркая асоба, чалавек, у якога было надзвычай насычанае жыццё. Ён з'яўляецца фігурантам многіх гераічных падзей, але і ўдзельнікам афёр, авантур у Францыі, Нідэрландах, Англіі, Даніі. Ён быў надзвычай муж-

ным, выдатным ваяром, некалькі разоў ахвяраваў велізарныя сродкі на абарону Вялікага княства і Рэчы Паспалітай.

Многае ў гэтай постаці неадназначна, але, калі верыць Сянкевічу, князь Багуслаў, акрамя ўсяго, быў яшчэ і злым духам Януша Радзівіла, а гэта абсалютная няпраўда. Таму трэба чытаць гістарычныя першакрыніцы, а ў тым ліку і «Аўтабіяграфію» самога Багуслава Радзівіла.

Але ёсць і іншыя дакументы таго перыяду. Як і князь Багуслаў Радзівіл, большасць шляхты зрабіла кароткачасовы выбар на карысць шведаў, але рабіць яго галоўным віноўнікам таго, што тады адбывалася, аніяк не выпадае. Тым болей, што да вайсковых дзеянняў далучыўся электар брандэнбургскі Фрыдрых Вільгельм, які быў блізкім сваяком Радзівіла. Князь Багуслаў на той перыяд стаяў поруч хутчэй з ім, чым са шведамі. Але для многіх гісторыкаў, а таксама для Сянкевіча было важна, што князь, можна сказаць, супрацоўнічаў з дзяржавай, якая пазней стала атаясамлівацца з Прусіяй, якая, у сваю чаргу, адыграла вельмі негатыўную ролю ў лёсе Рэчы Паспалітай. Ценем на памяць Багуслава Радзівіла кладзецца ягоны ўдзел у заключэнні Радноцкага дагавора. Гэтая праблема вымагае вывучэння, бо практычнае значэнне дамовы было невялікім — хада ваенных падзей зрабіла яе сутнасць неактуальнай. Але ў гісторыі Радноцкі дагавор застаецца як

першая спроба падзелу Рэчы Паспалітай, а Багуслаў Радзівіл як яе няспраўджаны далакоп. У Польшчы негатыўнае адценне — як бы мы ні імкнуліся да аб'ектыўнасці — заўсёды будзе класціся на палітыкаў, што супрацоўнічалі з Прусіяй. У нас заўсёды застаецца пад увагаю, да чаго гэта прывяло. Але як гісторык скажу: каб належным чынам ацэньваць постаць князя Багуслава Радзівіла, трэба ўлічваць умовы і асаблівасці той эпохі.

Усё, дзякуючы чаму мы ўспамінаем сувязі паміж беларускім і польскім народамі, якія вынікаюць з часоў першай Рэчы Паспалітай, мне вельмі даспадобы перш за ўсё як гісторыку і энтузіясту той дзяржавы. Зразумела, прысутнічалі там і механізмы, якія не дужа хораша працавалі, але гэта была вельмі цікавая дзяржава, дзе суб'ектамі былі людзі на месцах, дзе надзвычай важным з'яўлялася самакіраванне. Можа, у гісторыі Еўропы яна была самай дэмакратычнай дзяржавай. Гэта наша сумесная спадчына, вельмі важная сёння ўсёй Еўропе, а таму паўтаруся: усё, дзякуючы чаму мы ўспамінаем і расказваем іншым пра Карону і Княства, вельмі важнае, карыснае і добрае.

Вяртанне да гісторыі, супольнай для абедзвюх нацый, становіцца прычынай, па якой мы становімся ўсё больш блізкімі і ўсё лепш разумеем адзін аднаго. Нам прасцей даходзіць да праўды, калі мы робім гэта разам. Вядома, часам паўстаюць рознагалоссі, бо

беларусы, літоўцы, палякі, украінцы, звяртаючыся да падзей эпох сярэднявечча і барока, ужываюць нацыянальны пункт гледжання, апісваюць даўнія падзеі сучаснымі катэгорыямі.

Гісторыя Рэчы Паспалітай і Вялікага княства Літоўскага — гісторыя адразу некалькіх народаў. На жаль, дагэтуль існуе схільнасць разглядаць наш рэгіён як перыферыю, але калі мы зірнем на яго з сучаснай перспектывы — перспектывы адносінаў паміж дзяржавай і грамадствам, — то выявіцца, што наш рэгіён быў у авангардзе. Вялікае княства Літоўскае з'яўляецца супольным не толькі для беларусаў і літоўцаў, але і для палякаў. Трэба памятаць, колькі найвыдатнейшых польскіх палітычных і культурных дзеячаў паходзіла менавіта адтуль.

Таму я вельмі рады, што сёння і беларускі чытач зможа азнаёміцца з «Аўтабіяграфіяй» Багуслава Радзівіла, з яшчэ адной крыніцай па нашай супольнай гісторыі.

Я таксама вельмі ўсцешаны, што мне асабіста ўдалося спрычыніцца да выхаду гэтае цікавае кніжкі.

*Генрык Літвін,*
*доктар гістарычных навук*




Багуслаў Радзівіл, князь на Біржах, Дубінках,
Слуцку і Копылі.
*Дрэварыт М. Стакмана. XVIII стагоддзе.*





Бацька Багуслава Радзівіла — Януш Радзівіл (1579—1620), падчашы ВКЛ, кашталян віленскі, стараста барысаўскі і маці Эльжбета Гогенцолерн (1589—1630).
*Аверс і рэверс медаля. 1617 год.*



Дзядзька Багуслава Радзівіла Крыштоф (Крыштап) Радзівіл (1585—1640), ваявода віленскі, вялікі гетман ВКЛ.
*Мастак Д. Шульц. Каля 1652 года. Фрагмент.*







Багуслаў Радзівіл і ягоная жонка Ганна Марыя Радзівіл (1642--1667).

*Аверс і рэверс шлюбнага медаля. Срэбра. 1665 год.*

Людвіка Караліна Радзівіл (1667 – 1695),
дачка Багуслава Радзівіла.
*Гравюра.*

Старонка «Аўтабіяграфіі».

*На правым полі ўласнаручныя праўкі Багуслава Радзівіла.*

*1666 год.*



Надмагільная эпітафія Багуславу Радзівілу
і Ганне Марыі Радзівіл у Кафедральным саборы
ў Караляўцы (Калінінградзе).

*Багуслаў Радзівіл*

# АЎТАБІЯГРАФІЯ

**Год 1620.** Нарадзіўся я 3 мая ў Гданьску. Мой бацька — Януш Радзівіл, віленскі кашталян, а маці — Соф'я Эльжбета, дачка курфюрста, графіня брандэнбургская[1].

**Гады 1621, 1622, 1623, 1624, 1625, 1626, 1627.** Быў разам з маці ў Ліхтэнбергу, які знаходзіцца ў Футляндзе, мясцовасці і замку, купленым дабрадзеем бацькам маім[2].

**Год 1628.** Мая маці выйшла замуж за саксонскага князя Юліюша Гендрыка, а вяселле было ў Чэхіі ў Тэйзынгу. У тым жа годзе мой айчым выехаў з княгіняй паняй маткай у Польшчу. Яны прывезлі мяне 22 жніўня ў Вільню[3] і аддалі майму апекуну дзядзьку князю Крыштофу[4], які на той час быў маршалкам трыбунальскім.

**Год 1629.** Адвезлі мяне па навуку ў Кейданы, там жа ўпершыню прыняў я камунію[5] (прычасце — *Рэд.*).

**Год 1630.** Забраў ад мяне Бог княгіню яемосць паню матку[6], якая памерла ў Франкфурце-на-Одэры падчас родаў разам з сынам Францам Германам[7], саксонскім князем[8].

**Год 1631.** Быў з князем панам дзядзькам на сойме ў Варшаве, дзе меў справу з ваяводам віленскім Сапегам[9] наконт Копысі, якую выйграў. Падчас гэтай справы прамаўляў я да караля Жыгімонта Трэцяга[10].

**Год 1632.** Працягваў штудыі ў Кейданах *sub* (у) Іаана Юрчыю[11] *et* (і) Фрэдэрыка Старкіа[12].

**Год 1633.** 5 жніўня ў Дрэздэне пры жонцы саксонскага курфюрста, сваёй цётцы[13], памерла мая старэйшая сястра Элізабета Элеанора.

Вучыўся ў Вільні ў пратэстанцкім зборы *sub* (у) Артлібіа[14].

**Год 1634.** З Вільні зноў вярнуўся ў Кейданы, дзе цяжка захварэў на воспу.

**Год 1635.** Пляменнік мой па цётцы ягамосць князь брэсцкі[15] прыехаў па навуку ў Кейданы. У тым жа годзе ўзяў мяне князь, дзядзька мой, цяпер нябожчык, у лагер у Інфлянтах, які стаяў над Дзвіной ля Бандыміравай Мойзы[16]. [У шведаў] гетманам быў Штальганс[17], у нас вялікім гетманам быў князь Крыштоф Радзівіл, гетманам польным — Януш Кішка, ваявода полацкі.

**Год 1636.** 27 красавіка аддаў мяне ягамосць князь Крыштоф пакаёвым слугою да караля Уладзіслава, які вяртаўся з Масковіі, а 25 чэрвеня той жа дзядзька мой ягамосць князь пацвердзіў маю сталасць перад ягамосцю каралём і перад Трыбуналам.

*30 чэрвеня* паехаў з дзядзькам князем на пахаванне шведскай каралевы[18] ў Торунь, а вярнуўшыся адтуль, на ашмянскім сойміку быў упершыню абраны паслом.

**Год 1637.** *Ultimis diebus* (Апошнімі днямі*) ліпеня развітаўся з князем Крыштофам, цяпер нябожчыкам, які вывеў мяне на паўмілі за Вільню, і паехаў у чужыя краіны[19] праз Гданьск; адкуль 2 верасня, сеўшы на карабель, хацеў плысці ў Любек, але пачаўся такі шторм, што, правёўшы восем дзён паміж Любекам і Гданьскам на моры, мусіў я вярнуцца ў Гданьск. 16 кастрычніка па сушы зноў пусціўся я ў Галандыю праз паморскую і мекленбургскую землі, праз Гамбург, Любек і Брэмен. У гэтай дарозе бачыў шведскія войскі пад камандаваннем старога Врангеля, а таксама імператарскія войскі пад кіраўніцтвам Галаса і фларэнцкага князя Матыяша[20]. Разам з генералам Врангелем упершыню ўдзельнічаў у бітве, якая адбылася 5 лістапада

* Арыгінальны польскамоўны тэкст змяшчае ў сабе лацінамоўныя словы і выразы. У гэтай кнізе тут і далей пераклад з лаціны падаецца ў круглых дужках.

пад Трыбзэе, дзе ваяры імператара забілі генерал-лейтэнанта Вітзума[21] і захапілі сам шанец (умацаванне з вала і рова — *Рэд.*).

У канцы года прыехаў у Гронінген, дзе зноў заняўся штудыямі *sub* (у) *professore* (прафесара) Альтынга.

**Год 1638.** Выехаў з Гронінгена 15 красавіка. Знаёміўся з Фрызіяй, Норд-Галандыяй[22], Амстэрдамам і ўсімі галандскімі крэпасцямі, пасля, заняўшыся *exercitis corporis et* (трэніроўкай цела і) [...] (*у рукапісе не хапае слоў*) некалькі месяцаў у Утрэхце, *sub finem decembris* (у канцы снежня) пусціўся ў Францыю. *Circa hoc tempus* (У гэты час) прыйшла вестка аб тым, што нарадзіўся пераемнік французскага трона[23].

Кароль Уладзіслаў прыслаў мне з Польшчы прывілей[24] на земскага харунжага Вялікага княства Літоўскага. 28 снежня выехаў з Утрэхта ў Флісынг.

**Год 1639.** З Флісынга са спадарожным ветрам даплыў да Дыепы, адтуль 16 студзеня трапіў у Парыж, мімаходзь заехаўшы ў Сэн-Жэрмен, дзе *incognito* (таемна) бачыў французскага караля і каралеву[25]. Пасля вучыўся ездзіць на кані ў Дэляфолі, асвойваў шпагу ў Сен-Анжэ, навучаўся танцам у Дэ Нуае.

*Ultimus diebus* (У канцы) красавіка пачаў малы *tour* (аб'езд) Францыі. Пабываў у Арлеане, Самуры,

Туры, Анжэры [Лузане], Рышэлю, Нансі, Пац'еры і ў крэпасці Бруаж, а таксама ў Блуа і Брысаку, у іншых гарадах і замках. Вярнуўшыся адтуль у Парыж, я паехаў у жніўні ў Англію, дзе ў Лондане быў на аўдыенцыі ў старой маці французскага караля[26], англійскай каралевы[27], і цяперашняга гейдэльбергскага курфюрста[28]. Незадоўга да майго ад'езду з Лондана прыехаў і сам кароль Карл[29] са Швецыі, у якога я быў *humanissime exceptus* (вельмі добра прыняты), мусіў з ім тры альбо чатыры разы ездзіць на ягоных спрытных конях. Ён адаслаў мяне на сваім уласным караблі ў Галандыю, куды прыбыў я ў *medio* (сярэдзіне) кастрычніка.

**Год 1640.** Памёр у Галандыі палкоўнік дэ Мэ, пасля якога аўрыянскі князь даваў мне рэйтарскі полк, але я не мог яго прыняць, бо ягамосць польскі каралевіч Ян Казімір, перавезены ў Парыж са зняволення ў Сыстэроне, напісаў, каб я [прыехаў да яго][30]. Я прымчаўся тады да яго, у Вялікі пост пераправіўшыся па моры з Ротэрдама ў Кале, і ўдзельнічаў з ім у Парыжы ў розных забавах. Калі ён стаў *relaxatus* (вольным), суправаджаў яго да Бруселя, бо ён не хацеў адпускаць мяне ад сябе. Там вітаў я кардынала — наступніка караля[31], брата іспанскага караля, і пазнаёміўся з іншымі панамі іспанскімі, а менавіта з *comte* д'Аранж, з маркізам дэ Велядо і з Андрэ Кантэльмо. Адтуль зноў праводзіў я ягамосць

каралевіча[32] праз Галандыю, цераз Эмбдэнскае графства ў графства Ольдэмбургскае. Развітаўшыся там з ягамосцю каралевічам, паехаў я *recto itinere* (простай дарогай) у галандскі лагер і знайшоў яго ў вёсцы Мальдыгам, за мілю ад галандскага горада Слюзы, дзе *circa finem* (пад канец) чэрвеня мелі намер перайсці праз канал паміж Бруге і Гентам, але гэта не ўдалося. *Primis diebus* (Першымі днямі) ліпеня палкоўнік Готрыў здабыў форт пад Гульстам, так званы дэ Насаў. Праз тры дні хацеў *comes* Генрык Насаўскі[33], губернатар Фрызіі, другі форт, так званую Святую Ганну, захапіць раптоўнай вылазкай, але, правёўшы шэсць штурмаў, не змог, бо, *strenue rem gerens* (змагаючыся з запалам) побач са мной, забіў сябе з пісталета[34], а полк страціў каля васьмідзесяці афіцэраў і каля паўтары тысячы пехацінцаў. Гэта была мая самая першая экспедыцыя. Пада мной параніла каня, а самога мяне злавілі іспанцы. Але паколькі гэтая сутычка была ноччу, тыя, што мяне ўзялі, невядома чаго напалохаліся і адступіліся ад мяне. Мае слугі злавілі[35] тады іспанскага ротмістра, нейкага Лукаскэра[36]. Так, *infectis rebus* (нічога не зрабіўшы), адышлі мы з-пад Гульста, а 30 ліпеня з 30 тысячамі пяхоты сталі аблогай каля Гельдрыі і надта ж хутка ўзвялі вакол горада валы. Але пачаліся неверагодныя дажджы, і 5 верасня мы мусілі адступіць, бо і кардынал —

наступнік трона — з усімі сіламі рыхтаваўся ісці на падмогу.

У лістападзе мне паведамілі пра смерць князя Крыштофа, дзядзькі і дабрадзея майго, таму *ultimis diebus* (апошнімі днямі) лістапада выбраўся ў Польшчу.

**Год 1641.** 1 студзеня спыніўся я ў Караляўцы (цяпер Калінінград — *Рэд.*), дзе застаў маладога курфюрста Фрыдэрыка Вільгельма. Адразу пасля гэтага паспяшаўся ў Кейданы, у Віжуны[37], на пахаванне нябожчыка князя Крыштофа. Потым наведаў я Слуцк і іншыя маёнткі і, крыху ў іх пабыўшы, правёў тыдняў пяць пры двары караля Уладзіслава на паляваннях і ў іншых забавах. У гэты ж час мусіў аддаць загад пакараць у Варшаве слугу Янкоўскага, які паквапіўся на мой гонар. Нагляд за ўсімі маімі спадчыннымі маёнткамі, адабраўшы ад ранейшых эканомаў, даручыў пану Юрыю Рэчыцкаму, старасце казённаму, а сам, развітаўшыся з ягамосцю каралём, зноў паехаў у чужыя краіны, жадаючы застаць яшчэ аблогу Генепы. Але гэта не атрымалася, бо скончылася яна 23 чэрвеня, а я толькі 5 жніўня прыехаў у лагер. Цудоўна і весела правёў тую восень у Гаазе, [...], Утрэхце і іншых галандскіх гарадах.

**Год 1642,** *ultimis diebus* (апошнімі днямі) мая паставілі лагер каля Гронвы, пасля каля Райнберга.

Выправілі Райнграфа на варту пад Гелдрыю, з якім пайшоў і я. Паміж Страленам і Венлаў ён знянацку напаў на дзве тысячы іспанскай пяхоты і дзвесце рэйтараў, ударыў па іх на грэблі. Мне ж загадаў ён узяць пяцьдзесят конных добраахвотнікаў, і так Бог паспрыяў, што з пяцюдзесяццю коннікамі разграміў я той люд. А былі са мной людзі шаноўныя — лінебургскі князь Георг Вільгельм[38], якога параніла ў нагу, граф Фрыдэрык Вальдэк[39], цяперашні генерал, якога таксама тры разы ў калена параніла. Пад графам Генрыкам фон Данам[40] забіла каня, майго каня таксама параніла — яму пікай прабілі шыю. Перамога засталася за намі, але іспанцы захапілі нашага кіраўніка Райнграфа, які ў мітусні трапіў з канём у багну. Захопленыя чатыры харугвы і трыста вязняў я тым жа днём падарыў аўрыянскаму князю[41].

У тым жа годзе адбылося злучэнне французскіх войск на чале з гетманам Гебрыянам, веймарскіх пад кіраўніцтвам Розна, гаагскіх на чале з Эберштайнам з нашым галандскім войскам. Выехаўшы з таго лагера, быў у [Лейдзе] пры[42] адпраўцы цела нябожчыка князя Канстанціна Астрожскага[43], майго брата. Усё там *splendidissime* (з вялікім ушанаваннем) адбылося пад добрым кіраўніцтвам ягамосці пана Эліяша Арцішэўскага. Прыехаўшы з пахавання, адбыў я паядынак, з Божай дапамо-

гай шчасліва, з князем Тальмонтам[44], сынам князя Латрымуля[45], палкоўнікам конным і пляменнікам аўрыянскага князя, які, будучы параненым, быў вымушаны прасіць мяне дараваць яму жыццё. Маім секундантам быў Рэмон, француз, родам з Бурдо[46], а ў князя Тальмонта быў ротмістр Гобурт[47], пратэстант, які пасля быў губернатарам у Дэпе.

*25 снежня* я выехаў з Гаагі і сеў на карабель 28 *eiusdem* (таго ж месяца), капітанам на якім быў Форан. 31 *eiusdem* (таго ж месяца), паміж шостай і сёмай гадзінамі раніцы, карабель разбіўся за чатыры мілі ад Давэ, і ледзьве нас уратавалі. Тры караблі, якія ішлі за намі, патанулі на нашых вачах на тым жа месцы.

**Год 1643,** у студзені паехаў я ў Парыж. Кардынала дэ Рышэльё жывым ужо не застаў, а французскі кароль[48] быў моцна хворы і ў маі памёр. Быў я на ягоным пахаванні, якое адбылося ў Сандэні[49]. Затым даганяў князя Кандэ[50], які ішоў пад Ракруа, але на два дні спазніўся, бо бітва ўжо скончылася. Паехаў тады праз Брабант зноў у Галандыю, дзе яе міласць французская каралева[51], кардынал Мазарыні і ўсе вялікія паны ставіліся да мяне з пашанай. Яны не хацелі адпускаць мяне з Францыі і сваталі за мяне дзвюх сваячак: княжну дэ Роан[52] і княжну дэ ля Форс[53]. У лістападзе мусіў я пасьпяшацца ў Польшчу, бо меў там свае неадкладныя справы.

**Год 1644.** Жыў у Польшчы і давёў да канца копыскую справу з Максімовічам. З ягамосцю князем панам гетманам, братам маім[54], мы былі пасварыліся і дайшло нават да шабель, але пасля было ўсё *amicabiliter compromistum* (уладжана па-прыяцельску).

Кароль Уладзіслаў, цяпер нябожчык, ужо будучы ўдаўцом, хацеў, каб я знаходзіўся ў Францыі ў той час, калі ён выправіць паслоў да княгіні неверскай[55]. З'ехаў я тады ў Брабант, а пасля ў Парыж і там чакаў прыезду паслоў[56].

**Год 1645.** За некалькі тыдняў перад пасламі[57] ягамосці караля прыехаў я ў Парыж, дзе напярэдадні заручын каралевы, будучы з пасламі на балі, пасварыўся з князем дэ Рые, якому мусіў даць поўху, бо ён мяне груба абразіў. Меліся мы біцца дванаццаць супраць дванаццаці, але каралеўская гвардыя, разасланая па дарогах, не дапусціла гэтага. Кузен караля арлеанскі граф[58] выклікаў кардынала Мазарыні і ўсіх князёў і маршалкаў французскіх і памірыў нас, а князь дэ Рые, руку мне падаючы, пацісну ўяе так, нібыта даводзіў, што яшчэ хоча біцца са мною. Маімі секундантамі былі Ітон, Шаваньяк[59], Віньнёў, Каніляк, Парыкс, Вальяк, Ляпэрж, Ляцэмтар, Арон, Лямот, *lescuyer de Monsieur*[60], граф дэ Шаціён[61], Ранко[62].

Пасля я выехаў у Брабант і знаходзіўся ў Брусэлі.

**Год 1646.** Прыслаў мне той самы князь дэ Рые картку, каб я прыехаў у горад Саісан на мяжы і там біўся з ім. Перабраўся тады *incognito* (патаемна) з панам Янам Невяроўскім, маім слугой, выехаўшы з Гаагі ў Вялікі чацвер[63], а ў Вялікую пятніцу ўначы на дарозе за чатыры мілі ад Антверпена тройчы рабілі на мяне напады.

Потым паехаў праз Шампанію міма Ракроў. Уначы французскі патруль затрымаў мяне, прымаючы нас за купцоў, якія нібыта не хацелі плаціць мыта, і пасадзілі нас у пакой для стражы. Афіцэр Лабардэ хацеў адтуль мяне выкрасці, але яму за гэта ледзь не сцялі галаву. Пасля мяне пазналі і адаслалі ў Парыж, адкуль я, не марудзячы, вярнуўся ў Галандыю.

**Год 1647.** Зноў выклікаў мяне той самы князь дэ Рые. Тады я паехаў у Парыж і, дабраўшыся *ultimis diebus* (апошнімі днямі) лютага, чакаў яго з адным секундантам на каралеўскім пляцы. Але ягоная жонка[64] здагадалася, што ён рыхтаваўся да паядынку, з-за чаго яго арыштавалі і адправілі ў Вінсенскі лес[65], а мяне забралі і пасадзілі ў Бастылію. Там праседзеў я шэсць дзён, а пасля быў выпушчаны і прыязна прыняты французскай каралевай, а таксама кардыналам Мазарыні. Пасля паехаў я ў Галандыю на пахаванне аўрыянскага князя[66], дзе сустрэў ягамосць курфюрста Фрыдэрыка Вільгельма і мусіў разам

з ім і князем Маўрыкіем[67], чэшскім каралевічам, ехаць у Клевей. Там давялося мне мець паядынак з баронам Гротам[68]. З'язджаліся мы на конях, з пісталетамі — Бог мне паспрыяў, і я перамог барона.

**Год 1648.** Каралева-маці і французскі кароль прыслалі мне праз кардынала Мазарыні патэнт на генеральства над польскімі і нямецкімі палкамі, якія былі на французскай службе, а таксама ліст на трыццаць тысяч штогадовага ўтрымання[69]. Акрамя таго, было абяцанне праз графа д'Арпажона, які быў абраны паслом ад французскага караля, што мне ў Варшаве адразу павінны выдаць грошы на набор двух палкоў пяхоты. Я ўжо наважыўся быў служыць, бо далі мне тытул *du colonel general des troupes estrangers* (генеральнага палкоўніка чужаземных атрадаў), але паколькі пачалася зацятая вайна з казакамі, каралевіч Ян Казімір не хацеў адпускаць мяне ад сябе [і мусіў ужо яго і Айчыну *adhaerare* (не пакідаць), быў на элекцыі[70] (абранні на трон — *Рэд.*)].

**Год 1649.** У Брэсце-Літоўскім (Бярэсці — *Рэд.*) *illegitimo loco et tempore* (не адпаведным закону месцы і часе) былі выбраны паслы, пасля чаго мусіў быць склікан іншы соймік, на якім мяне абралі паслом на сойм *coronationis* (каранацыйны).

Калі суправаджаў караля, які ўязджаў у Кракаў, *pessimo omine* (на злы лёс) мой вельмі добры конь

пашкодзіў на вуліцы капыта, і мне ледзь знайшлі іншага каня.

Неўзабаве пасля гэтага, калі я *publice* (адкрыта) адпраўляў набажэнства ў сваёй камяніцы, хацелі ўварвацца да мяне студэнты, але, калі даведаліся пра маю гатоўнасць да абароны і дамову з ягамосцю каралём і ксяндзом біскупам кракаўскім[71], пакінулі мяне ў спакоі.

Там жа на Запусты (апошні тыдзень перад Вялікім пастом — *А. Б.*) у маршалка кароннага пана Казаноўскага[72], цяпер нябожчыка, было прадстаўленне з ягамосцю каралём. Падчас танцаў я моцна разагрэўся, і пачалася страшная гарачка, якая *continue, sine omni intermissione* (пастаянна, без хвілі перапынку) пятнаццаць дзён *cum delirio* (з высокай тэмпературай) мяне трымала, так што ўсе медыкі ад мяне адступіліся. *Miraculose tandem* (аднак цудоўным чынам) з Божай дапамогай *convalui* (папраавіўся).

У тым жа годзе, калі я ў маі прыехаў у Варшаву, атрымаў ад ягамосці караля генеральства над усімі сваімі гвардыямі, а два палкі — пешы і конны — было загадана набраць у Кароне. У Літве ў тым жа годзе я меў уласныя гусарскую і казацкую харугвы. Паручнікамі ў іх былі: у гусарскай — пан Франскевіч, пісар польны літоўскі, у казацкай — пан Рама볼ўскі.

У той жа самы час у Варшаве ягамосць кароль дараваў мне Ашмянскае староства, якое я *cessi* (передаў у кіраванне) майму слузе пану Адаму Сарадаў у кіраванне) майму слузе пану Адаму Саковічу, ашмянскаму падкамораму.

Выехаў у лагер пад Збаражам, але, прыехаўшы ў Брэст-Літоўскі, даведаўся пра заключаныя дамовы з ханам[73] і з Хмяльніцкім. Пераняў тады ў Асецку ягамосць караля, які вяртаўся ў Варшаву з вяселля пана Мнішка, кухмістра кароннага.

**Год 1650.** Правёў той год пры двары, ездзячы на ловы з ягамосцю каралём і займаючыся гаспадарчымі справамі ў сваіх уладаннях. У тым жа годзе дараваў мне ягамосць кароль Мазырскае староства, якое саступіў свайму гусарскаму паручніку пану Франскевічу, нават не заязджаючы ў яго.

Пасля ўзяў пісьмовы дазвол на набор у Літве аднаго пяхотнага палка і аднаго драгунскага. Акурат у гэты самы час мой адзінакроўны брат ягамосць саксонскі князь Франц Эртман прыехаў да мяне, і я прызначыў яго оберлейтэнантам у драгунскі полк.

**Год 1651.** Прыехаў з Варшавы ў Старую Вёску (за 12 міль ад Варшавы — *Рэд.*) і пачаў перабудову свайго старавясковага палаца. Адтуль выправіўся ў лагер ягамосці караля, дагнаў яго ў Любліне, адкуль пацягнуліся мы ў Сокал, дзе было загадана сабрацца ўсяму войску і маім палкам. Злучыўся там з украінскім войскам, якое прывёў з сабой гетман

польны пан Каліноўскі, і вырушылі мы пад Берастэчка (Берасцечка — *Рэд.*), міма вядомай магілы нябожчыка князя Аляксандра Пронскага[74] і пана Эліяша Арцішэўскага[75], знанага палкоўніка.

Калі ж наважыліся мы вырушыць у Дубна, надвячоркам паведамілі, што наступае крымскі хан разам з Хмяльніцкім. Назаўтра[76] раненька, у сераду, наша стража, якая стаяла каля замэчка Козін, прыбегла з весткай, што на свае вочы бачыла непрыяцеля. Аднойчы, калі я са сваім конным палком спыніўся на рынку[77], спачатку ўбачылі мы вялікія клубы пылу, і следам за гэтым паказаўся непрыяцель, з якім, гэта значыць толькі з самой Ардой (бо казакі яшчэ не падышлі), не выводзячы сваёй пяхоты ў поле, змагаліся мы аж да самай ночы даволі *felici successu* (вынікова).

У чацвер рана[78], каля восьмай, Арда, непараўнальна мацнейшая, чым напярэдадні, аднак без хана, зноў падышла да Козіна. У самы поўдзень ударыла яна па нас *desperate* (адчайна) і захапіла гетманскую гусарскую харугву. Давялося тады ягамосцю пану Любамірскаму[79], старасце кракаўскаму, ягамосці пану ваяводзе віцебскаму Сапегу[80] і мне ўдарыць па непрыяцелю, якога мы перамаглі, страціўшы з нашага боку ягамосць пана Казаноўскага[81], пісара польнага кароннага, і ягамосць пана Асалінскага[82], старасту люблінскага.

Ардынцаў палегла нямала, але самым знаным быў ханскі падскарбі[83], якога рассеклі.

А другой гадзіне пасля поўдня ардынцы, нічога больш не прадпрымаючы, адышлі назад. У пятніцу рана, а трэцяй, ягамосць кароль, пакінуўшы тры тысячы венгерскай пяхоты ў абозе, вывеў на поле ўсю інфантэрыю, артылерыю і конніцу. Нашага войска было *effective* (на самай справе) восемдзесят тысяч. Атрады правага крыла чужаземнага войска ягамосць кароль даручыў мне, а левага — пану Гу-бальду, генерал-маёру. Правае крыло войска коннага кароннага меў Ланцкаронскі, ваявода брацлаўскі (бо пан кракаўскі гетман каронны[84] хварэў), левым жа кіравалі пан Каліноўскі, гетман польны, і князь Ерамей Вішнявецкі, ваявода рускі.

Напагатове стаялі мы ад трэцяй раніцы аж да дзесятай у такім густым тумане, што нічога на маглі бачыць. У адзінаццаць паказалася непрыяцельскае войска, крымскае і казацкае, ужо з'яднанае між сабой. Налічвалася іх сто восемдзесят тысяч, з гучнымі воклічамі яны пайшлі на нас, але, калі падышлі бліжэй, спыніліся. Князь Вішнявецкі першым пачаў бітву і гадзіны дзве знаходзіўся пад няспынным казацкім абстрэлам, бо зламаць іх не змог. Мне ж пасля гэтага загадалі выступіць з чужаземным войскам на непрыяцеля, а ягамосцю пану Пшыемскаму, генералу артылерыі, ударыць з усіх

гармат, *utrymque successit* (адно і другое ўдалося), *ex quo* (у выніку гэтага) ханскага суродзіча каля самога хана *casu* (выпадкова) з гарматы забілі. Ардынцы паціху пачалі адступаць, а пасля, калі адзін з маіх эскадронаў з правага крыла прывітаў іх залпам з мушкетаў, зусім у тыл падаліся, пакінуўшы казакаў і захапіўшы з сабой толькі гетмана Хмяльніцкага. Мне ж тады, [калі ардынцы адступалі][85], дастаўся ханскі пярэсты конь, якога забраў у цэлебі[86], і ханская калясніца з шарбетамі. Крыху [пазней][87], адпачыўшы, *cinximus* (абкружылі мы) нашым войскам яшчэ тым жа вечарам казакаў і *in obsidione* (у аблозе) трымалі іх *ad diem* (да дня) [...][88]. [Днём], зрабіўшы цераз ставок грэблю з сёдлаў, кажухоў і сваіх вазкоў і невядома чаго спалохаўшыся, у страшным беспарадку а восьмай раніцы яны ўцяклі з лагера, пакінуўшы нам усе гарматы, дзяржаўны скарб і адзнакі сваіх прывілеяў. Усё гэта дасталося нам разам з канстанцінопальскім патрыярхам[89], якога забіў малады дзяцюк. Ісці за імі ў пагоню загадана было мне і ягамосцю пану Чарнецкаму, на той час суддзі вайсковаму і паручніку гетманскай харугвы. Шмат іх, ардынцаў і казакаў, уцякаючых, мной *maxima clade caesi* (у вялікай паразе былі забітыя), асабліва ў адным гаі, дзе іх васемнаццаць соцень было пакладзена. Ягамосць пан Чарнецкі, ідучы другім флангам, таксама паклаў іх

нямала. Цэлы тыдзень потым ішлі мы з Берастэчка за непрыяцелем ажно да Крамянца[90], адкуль ягамосць кароль вярнуўся праз Люблін у Варшаву, загадаўшы мне ехаць разам з ім.

*In fine septembris*[91] (У канцы верасня) прыехаў у Варшаву надзвычайны пасол ад іспанскага караля дон Жан дэ Шаржэ, якога я разам з Папскім легатам[92] запрасіў да сябе і [*nominee*...] (ад імя) частаваў іх *lautissime* (добра). Гэты мой банкет быў прычынай таго, што легат не стаў кардыналам, таму што захоўваў са мной надта добрыя сяброўскія адносіны.

**Год 1652.** Меў я працяглую справу з ксяндзом Ушынскім, які, не маючы ад мяне, патрона, рэкамендацый, стаў святаром Венграўскай[93] парафіі і, даўшы згоду абраца дэпутатам[94], забіў *praemediato animo* (наўмысна) майго жаўнера, а другога смяротна параніў. За гэта яго забралі *me absente* (падчас маёй адсутнасці) з бровара, адкуль ён страляў, і адправілі ў Старую Вёску да старасты пана Невяроўскага, які адразу ж адаслаў яго на сваёй фурманцы да ксяндза-біскупа луцкага ў Янаў[95]. Затым, *ex carcere dimissus* (вызвалены з-пад арышту), ён распачаў кампанію супраць мяне ў Пётркаўскім трыбунале[96] наконт свайго зняволення. Я *personaliter* (асабіста) быў вымушаны прысутнічаць і выставіць каля пяцідзесяці сведкаў з ліку шляхты.

Каштавала мне гэтая справа звыш васьмідзесяці тысяч злотых, *tandem* (але ж) мусіў ксёндз *cedere lokum* (паступіцца), і, што самае дзіўнае, у гэтай справе найбольш заступалася за мяне духавенства, на што я не спадзяваўся, хоць і меў законныя падставы. Тут таксама *notandum* (варта зазначыць), што пакуль я знаходзіўся ў Пётркаве з такой вялікай колькасцю людзей, якіх было не менш за тры тысячы, ніякага тэрміну разгляду справы ў судзе ні мне, ні людзям не прызначылі.

Знарок дзеля гэтай справы прыехаў да мяне ў Пётркаў ягамосць князь пан ваявода кракаўскі[97] з Вальбожа, якога я размясціў у замку, а ягоны двор знаходзіўся з маімі слугамі, і гасцяваў я яго цэлы тыдзень.

У тым жа годзе пасля ягамосці пана кракаўскага Патоцкага[98] было аддадзена мне Барскае староства. Праз некалькі месяцаў пад Батогам[99] было разбіта наша войска і два маіх палкі, пасля чаго мусіў нанава набіраць пешы і конны палкі, а паколькі грошай у скарбе не было, заклаў я свае спадчынныя маёнткі Жупраны[100], Грубяжэвічы (Рубяжэвічы — *Рэд.*)[101], Далятычы[102] (Дзяляцічы — *Рэд.*) і Вязынь[103], каб Айчыне і Рэчы Паспалітай гэтым наборам паслужыць.

**Год 1653.** У студзені закончыў справу з ксяндзом Ушынскім у Пётркаве *per compositionem* (пагаднен-

нем), і гэтае прымірэнне даволі добра схілілася на мой бок. *Primis diebus maii* (На пачатку мая) паехаў з ягамосцю каралём у Львоў, дзе праходзіла бурная вайсковая камісія. Пасля, калі войска стала лагерам, паехаў у Гліняны. *Tandem* (Нарэшце) прыйшлі мы да Камянца-Падольскага[104], адкуль ягамосць кароль выправіў мяне з дваццацю харугвамі перад сабой у Бар[105], дзе я застаў такую вялікую пустэчу, што быў вымушаны сядзець не піўшы і не еўшы[106]. Сустрэўся па дарозе з ягамосцю панам старастам вінніцкім[107], які з тысячай коней вяртаўся ў лагер[108]. Падыходзячы да Бара, за тры мілі ад горада, натрапілі мы ў букавым лесе на фінскага жаўнера з палка курляндскага князя[109], які невядома *quo fato* (якім чынам) там заблукаў, не разумеючы аніводнага слоўца па-польску і не ведаючы, куды ісці. Нават з намі не мог размаўляць, толькі ўпаў на калені і жэстамі паказваў, як ён рады, што трапіў менавіта да нас, бо дзевяць дзён акрамя жалудоў анічога не еў, і гэта было па ім відаць[110]. Загадаў я пасадзіць яго на воз і, даючы патроху ежу, ажывіў. Пераначаваў я ў Бары дзве ночы ў холадзе і голадзе і вяртаўся назад[111], бо замест таго, каб войска следам за мной пайшло, вярнулася яно пад Камянец-Падольскі, а я ледзьве ўратаваўся ад ардынцаў, якім адзін поп паведаміў пра мой прыезд, калі я яшчэ набліжаўся да Бара. Тады пусціліся былі за мной з двума коньмі (на кож-

нага вершніка — *Рэд.*) каля дзесяці тысяч крымскіх добраахвотнікаў, так што я ледзьве дабраўся да камянецкіх муроў.

Падчас вяртання назад знайшоў я на дарозе каля конскага трупа чатырохгадовае дзіця і сабаку побач з ім: шэсць дзён таму, калі наша войска вярталася ў Камянец, адзін рэйтар, страціўшы каня, пакінуў там дзіця. Я загадаў забраць яго. Дзіця было здаровае, нічога не баялася і калупалася пальчыкамі ў трупе, які рваў сабака. Але як толькі напілося цёплай поліўкі з піва, адразу ж памерла.

Ягамосць караля з войскам застаў каля Жванца. Кароль ладзіў лагер і загадаў узвесці мост цераз Днестр каля самага Хаціна. Ажно за Прутам мусілі мы здабываць прадукты, але надта цяжка было і з лесам. Да таго ж *primis diebus novembris* (першымі днямі лістапада) хан[112] з Хмяльніцкім акапаліся каля нас, так што ўсялякую сувязь нам з Польшчай перапынілі. Ягамосць кароль хацеў біцца з імі на полі, але *consilia* (парады) іншых яго ад гэтага адвялі, тое напэўна згубіла б нас, калі б Сэфар Казы-ага, візір ханскі[113], да канцлера нашага пана Карыцінскага[114], цяпер нябожчыка, не напісаў, што хоча пачаць перамовы з намі. Той ліст да канцлера ардынцы ўклалі селяніну ў бот[115] і, пасадзіўшы яго на каня, каля трыццаці коней накіравалі да нашага лагера, дзе спаткалі пана Бут-

лера, майго рэйтарскага ротмістра, які той ноччу быў выпраўлены ўзяць языка. Пад'ехаўшы бліжэй да яго, скінулі таго селяніна з каня, але нашы яго злавілі і з лістом прывезлі да мяне ў лагер. Як я потым даведаўся, візір зрабіў гэта без ведама хана. Праз некалькі дзён каля Камянца ўсталяваўся мір з ханам без аніякага дакумента, бо хан не хацеў гэтага, і абодва бакі толькі *tacto pectore* (з рукой на грудзях — на сэрцы) і на барадзе прысягнулі, *more gentis* (паводле звычаю таго народа), заключыць мір з 20 снежня.

Перажыўшы шмат непрыемнасцяў за той год у лагеры *sub dio* (пад чыстым небам), спыніўся я напярэдадні Божага нараджэння разам з ягамосцю панам Любамірскім, маршалкам надворным[116], і ксяндзом Выжгай у Львове і знаходзіўся там да Новага лета[117].

**Год 1654.** Выехаў з Львова 3 студзеня. Праз Замасць, Люблін і Брэст-Літоўскі прыехаў спярша ў Сялец, а затым у Слуцк. Неўзабаве стаў паслом [...] і паехаў на сойм з дасланай праз пана Дзевалтоўскага, троцкага харунжага, элекцыяй, згодна якой жыхары Полацка выбіраюць мяне пасланнікам і праз пасла ягамосці караля горача просяць[118], каб менавіта я, і ніхто іншы, стаў іхнім ваяводам. Паколькі ягамосць кароль аддаў мне гэтае ваяводства, то і прывілей быў падпісаны ў ягамосці

князя канцлера Вялікага княства Літоўскага[119]. Але *eadem die* (тым жа днём), як тое ваяводства ягамосць кароль дакляраваў мне, з'явіўся езуіт[120] з Полацка, увайшоў у палату сенатараў і паведаміў, што маскавіты ўжо захапілі Полацк[121], таму я і не пасылаў па той прывілей.

**Год 1655.** Толькі крыху адпачыўшы з соймавай дарогі, пайшоў у моцныя маразы ў літоўскае войска, што было пад камандаваннем ягамосці князя пана брата, цяпер нябожчыка, якога я застаў з войскам каля Старога Быхава[122]. Пасля, падышоўшы пад Новы Быхаў Слушкаў[123], ягамосць князь пан брат, будучы хворым, арганізаваў атаку на Быхаў, і даручыў мне правае крыло, а ягамосці гетману польнаму пану Гасеўскаму з палкоўнікам каралеўскай гвардыі панам Вольфам левае, і загадаў, каб мы штурмавалі горад. Падышоў, хаваючыся за высокім берагам Дняпра, па лёдзе ажно да самых сцен. Нашы драгуны, уклаўшы мушкеты ў дзіркі паркана, адкрылі агонь, але без пралому і без сякер цяжка было перабрацца цераз сцены.

Левае крыло з панам Гасеўскім таксама не штурмавала, у выніку чаго ўвесь націск быў скіраваны на мяне аднаго, і мы, *infectis rebus* (нічога не зрабіўшы), вярнуліся. У гэтай сутычцы палкоўніка Пшыпкоўскага[124] двойчы параніла шротам.

У самыя запусныя дні[125], *cum diluculo* (на світанні) падступіліся мы да Магілёва, спадзеючыся, што нам здадуцца і адчыняць вароты, але пан Паклонскі не стрымаў слова, якое даў нам праз прысланага да нас Сулоўскага, і надзея наша не спраўдзілася. Я быў у галоўным дазоры каля гарадскіх сцен з казацкай харугвай пана Кміціца, пана Высоцкага і пана полацкага[126]. Князь пан гетман пусціў на штурм Юшкевіча са Скарбкам з венгерскай пяхотай, а мне з тымі харугвамі і рэйтарамі загадаў уступіць у прадмесце, што я і зрабіў. Добра падтрымлівалі мяне гэтым разам пан палкоўнік Моль і пан оберлейтэнант Путкамер[127], з якімі маскавітаў з Дняпра сагналі. Але я не меў праваднiка і не ведаў, куды ісці, і тады з замка каня пада мной падстрэлілі. Аднак капрал з палка пана Вейра[128] аддаў мне свайго каня, каб я да князя пана гетмана па загад паехаў; *ex quo* (у выніку чаго) пяхота няхутка падышла. Тым часам знікла ў нас магчымасць захапіць замак. Праз некалькі дзён, падрыхтаваўшыся, мы штурмавалі замак, але *nullo efektu* (безвынікова), бо вялікіх гармат для разбурэння сцен не было, дый загінулі ў нас добрыя афіцэры. Аднойчы, калі я з гетманамі быў у царкве, якая знаходзілася каля самага гарадскога вала і якую ахоўвала пяхота Юшкевіча і Скарбка, стрэлілі ў мяне згары з гарматы праз царкоўнае акно, замест ядра *ob defectum*

(з-за адсутнасці) паўцаглінай яе зарадзіўшы. Але так Пан Бог пажадаў, што тая паўцагліна спачатку стукнулася аб раму ў царкоўным акне і, страціўшы сілу, трапіла мне ў правую руку. Так што ў мяне адразу вырас вялікі крывавы гузак, і некалькі тыдняў я ледзьве падымаў руку. У магілёўскіх прадмесцях блукалі мы ад Запустаў *usque ad maium* (ажно да мая), *tandem* (пакуль) з-за вялікай паводкі нам не давялося адмовіцца ад аблогі і накіравацца ў Барысаў, адкуль, развітаўшыся з князем панам гетманам, я вярнуўся ў Слуцк, каб закончыць новую крэпасць, якую *die* 2 *aprilis* (красавіка) таго ж года загадаў закласці [і для рамонту старой][129]. І так добра пайшла справа, што 10 *augusti* (жніўня) крэпасць ужо была гатовая *in defensione* (да абароны).

*Ultimis diebus augusti* (Апошнімі днямі жніўня) паехаў я ў Вільню, дзе ў апошні раз бачыўся з князем панам братам[130]. Адтуль накіраваўся ў Бранск (Падляшскі — *Рэд.*), жадаючы застаць у Варшаве ягамосць караля, але на выездзе мне паведамілі, што там ужо знаходзіцца шведскі кароль[131]. Назаўтра прыехаў да мяне трубач ад пана Радзяёўскага. Менавіта ў гэты час[132] усё Падляшскае ваяводства абрала мяне сваім генералам, і да мяне ў Бельск збіраліся паспалітыя рушэнні, а таксама некаторыя харугвы літоўскага войска. Стаў я тады лагерам

каля [Зашкава][133], дзе Караткевіч праз грошы харугвы мае літоўскія збунтаваў. Адразу пасля гэтага я накіраваў пасланца да ягамосці караля паведаміць пра маю гатоўнасць і спытаць яго, дзе загадае мне знаходзіцца. Але адпраўленых з экспедыцыяй маіх пасланнікаў па загаду пана канцлера кароннага Карыцінскага *malevolorum consilio*[134] (з парады зласліўцаў) зноў дагналі, лісты каралеўскія адабралі і аднаго з іх забілі. У гэты час шведы захапілі Кракаў і гетманы[135] з кароннымі войскамі аддаліся ім[136]. Напрыканцы таго ж года дайшоў шведскі кароль са сваімі і кароннымі войскамі да курфюрсцкай Прусіі. Граф Магнус[137], ідучы са Жмудзі, кіраваўся на Падляшша, а маскавіты, будучы ў Заблудаве і Орлі, пераходзілі мост цераз Нарву і кіраваліся да Брэста (Бярэсця — *Рэд.*). Такім чынам, жадаючы паслужыць маёй Айчыне і будучы з усіх бакоў заціснутым, ішоў я з павятовымі і маімі харугвамі пад Боцькі, маючы намер перабрацца адтуль у Брэст на дапамогу ягамосці пану Сапегу[138]. Але ў тых жа Боцьках прыйшоў да мяне ліст ад ягамосці пана Сапегі, у якім ён паведамляў мне, што ўжо атрымаў перамогу. Я вярнуўся тады назад у Бранск, але, разумеючы, што ў ягамосці караля няслушна падарвалі давер да мяне і што нават на мае лісты не дадзена адказу, *nolens volens* (хоцькі-няхоцькі), быў вымушаны знаходзіцца ў шведскага караля, да

якога *ultima decembris* (апошнім днём снежня) таго ж года прыехаў у Голанд; у той час ужо ўсе гетманы і войскі былі разам з ім. У шведскага караля ўбачыў ягамосць пана Канецпольскага, ягамосць князя Дзмітрыя Вішнявецкага, ягамосць пана Сабескага, ягамосць пана Патоцкага, старасту вінніцкага, ягамосць пана Карыцкага і іншых, а нават і ягамосць пан ваявода віцебскі Сапега праз мяне шведскага караля наконт Шаўлі (цяпер Шаўляй — *Рэд.*)[139] упрошваў[140].

**Год 1656.** Ішоў са шведскім каралём *die* 2 *januarii* (студзеня) да Караляўца, дзе неўзабаве пасля гэтага паміж ягамосцю курфюрстам і шведамі былі заключаны пагадненні[141]. Затым мне паведамілі пра смерць (калі быў я ў Бартэнштайне) князя пана брата[142]. Я паспяшаўся як мага хутчэй на яго пахаванне, але, пад'язджаючы да Камянца-Мазавецкага, даведаўся, што ягамосць малады пан Сапега[143] [...] стаў аблогай каля Тыкоціна. Сабраўшы тады, колькі змог, людзей, пайшоў на дапамогу Тыкоціну, каб вызваліць цела нябожчыка князя, з якога хацелі паздзекавацца. Адпомсціў таксама Караткевічу, які некалі маіх людзей пад Зашкавам падбухторваў, — дашчэнту разбіў ягоны полк у Харошчы, а сам ён ледзьве ўцёк[144]. Усё добра закончыўшы, ідучы адтуль у Варшаву, даведаўся, што Сапегава харугва, якая ў

Янаве, рыхтавалася напасці на мяне. Апярэдзіў яе і ўшчэнт разбіў.

Са шведскім каралём, які вяртаўся ад Замасця, злучыўся каля Варшавы на другі дзень пасля Вялікай ночы. З ім жа потым некалькі тыдняў хадзілі пад Быдгашч і па Вялікай Польшчы. Напрыканцы прыйшлі ў Торунь, адкуль шведскі кароль паплыў у Эльблонг, бо даведаўся пра прыезд шведскай каралевы[145], якую і я павітаў. Пабыўшы крыху ў Эльблонгу, вырушылі мы ў Гданьск, і, заняўшы Галаву[146], захапіў шведскі кароль яшчэ два форты, вельмі патрэбныя гораду.

А тым часам шчаслівы *cursus* (ход) падзей для шведскага караля быў перапынены захопам Варшавы ягамосцю каралём польскім, у выніку чаго першы страціў усе свае рэчы і адзенне. Калі да шведскага караля дайшла вестка [...], *non turbato animo* (захоўваючы прысутнасць духу), баючыся, каб не разбілі пад Новым Дваром ягонага брата князя Адольфа[147] і Врангеля, дзе яны стаялі з малой колькасцю людзей, пры гэтым маючы намер паводле дамовы правесці пад Закрочымам *coniunctio armorum* (злучэнне войска) з князем ягамосцю курфюрстам, адышоў і сам пад Новы Двор, дзе стаў лагерам. Адтуль кароль, калі даведаўся пра аблогу Тыкоціна паспалітым рушэннем, адправіў мяне з трыма тысячамі адборных людзей на дапамогу го-

раду. З Божай дапамогай я зноў горад той вызваліў і самыя каштоўныя рэчы з яго вывез. Тым самым днём, калі адбылося *coniunctio armorum* (злучэнне войска) з ягамосцю курфюрстам, я вярнуўся да шведскага караля.

Затым пачалася вырашальная бітва пад Варшавай, якая доўжылася тры дні, ад пятніцы ажно да нядзелі[148]. Шведскі кароль загадаў мне ахоўваць яго ў гэтай бітве. Не ведаю, з якой павагі запатрабаваў таксама, каб левае крыло ягонага войска я адразу ўзяў пад сваё камандаванне, але я не хацеў, смела заявіўшы, што там, дзе кароль мой знаходзіцца, зброі супраць яго ўжываць не буду. Пасля перамогі я схіляў шведскага караля да міру, бо перад бітвай ён прысягнуў мне, што, калі атрымае вікторыю, адразу павінен забяспечыць мір. Але я ўбачыў яго вельмі *alienatum* (далёкім) ад гэтага, *aerge* (ледзь) тое дазволіў, каб мой слуга пан Габрыэль Любянецкі паехаў да ягамосці пана падканцлера кароннага Ляшчынскага[149] з прапановай міру, але, відаць, Пан Бог не хацеў гэтага, і справа пакуль *non maturae res* (не наспела), бо ў дарозе непадалёк ад Кавалёва пана Любянецкага, *optime Patriae et Reipublicae cupientem* (які жадаў найлепшага для Айчыны і Рэчы Паспалітай), забілі.

Пасля выйгранай Варшаўскай бітвы адправіўся шведскі кароль у Прусію, а мяне з чатырма палкамі,

далучыўшы генерал-маёра Ізраэля[150], выправіў на Падляшша з настойлівым наказам, каб асвоіўся і *in casum* (у выпадку) наступлення на яго кіраваўся да курфюрсцкага войска, якое стаяла каля Шчытна. Не жадаючы марнаваць часу, падрыхтаваў жыта і жывёлу, прывёз гэта ў Тыкоцін, які меў мала прадуктаў, а *vice versa* (на зваротным шляху) на тых самых вазах, дзе былі харчы, вывез нямала патрэбных рэчаў.

Хацеў і свае архівы адтуль забраць, але ягамосць пан Гасеўскі[151] з-пад Бранска разам з Супанам Казы-ага наступаў на Прусію і набліжаўся да курфюрсцкага войска, якое стаяла лагерам каля Просткаў. Тады і я са сваімі людзьмі кінуўся да Райгорада, што за тры мілі ад Простак, і чакаў там паведамлення аб злучэнні ад графа Вальдэка[152] (які быў гетманам над войскам курфюрсцкім).

Уначы граф Вальдэк паведаміў мне, што польскае і крымскае войскі прыйшлі ў Вонсаш. Выступіў тады і я з намерам увайсці ў акопы і назіраць *actiones* (за дзеяннямі) ягамосці пана Гасеўскага, але калі прыйшоў да яго, то атрымаў іншую задачу. Бо Вальдэк, баючыся, каб Арда не адрэзала дзве тысячы чалавек, якія ўжо ішлі да яго з Элка, вырашыў пакінуць акопы каля Простак і ісці ім на дапамогу, [і] *in salvo* (бяспечна) іх правёўшы, стаць лагерам каля Элка. Я з гэтым *contraries* (не пагаджаўся),

але пераспрэчыць яго не мог. Пакольні гэтае перамяшчэнне было на вачах не адно літоўскага войска, але і Арды, то як толькі стала бачна, што вазы вырушылі з акопаў, ардынцы слепа кінуліся ў іх. Тым часам курфюрсцкае войска, у вялікім беспарадку перайшоўшы цераз мост, не магло апамятацца і без усялякага супраціўлення падставіла свой тыл. Я знаходзіўся ў галоўным дазоры, бо тым днём быў у авангардзе, і, чакаючы, пакуль прускае войска падыдзе на адлегласць стрэлу гарматы з акопу, ахоўваў пераход цераз раку ад татараў і дзве гадзіны валаводзіўся з імі так, што ніводзін з іх не змог перайсці, і разумеў, што і пераходу войска Вальдэка праз мост не дапусцяць. Але я *hac spe frustrates* (памыліўся ў гэтым спадзеве). Абодва войскі ўсёй моцай наступалі на мяне і, абкружыўшы, частку людзей паклалі на месцы, частку забралі. Мяне ж, моцна параненага ў галаву — я ляжаў ужо на доле, харунжы сына Супана Казы-агі наканечнікам дрэўка сваёй харугвы, надта доўгім і вострым, хацеў прышпіліць да зямлі, але я *casu* (выпадкова) схапіўся рукой за наканечнік і той па волі Бога адламаўся ад дрэўка і застаўся ў маёй руцэ. У адказ выстраліў толькі адзін пісталет Свінарскага[153], а другі, скіраваны ў бок таго, што хацеў пракалоць мяне, падвёў. Правёў мяне той ардынец паўмілі каля каня, нічога ў мяне не беручы, а калі я стаміўся,

скінуў хлопца майго, Сулоўскага[154], з захопленага каня і мяне разам з ім каля сябе пасадзіў. Меў я ў кішэні, у закапцелым мяшэчку, даволі значныя каштоўнасці, якія татарын неаднаразова спрабаваў адабраць, але я не аддаваў яму. І ён, не ведаючы, што ў мяшэчку, і думаючы, як пасля сам расказаў мне, што гэта рэліквіі альбо рэчы для набажэнства, не адбіраў іх. Калі той татарын вёў мяне, пазнаў мяне пахолік (пахолікі — маладыя хлопцы-слугі, якія знаходзіліся разам з рыцарам, але не з'яўляліся яго памочнікамі, памочнікі рыцараў называліся пахолакамі — *А. Б.*) з палка кароннага войска пана Вайніловіча, які, пачуўшы, што мяне захапілі, прыскакаў на сарака конях, накінуў на мяне апанчу і сілай адабраў у татараў. Адразу ж пасля гэтага правёў мяне да ягамосці пана Гасеўскага, які, *condolendo* (паспачуваўшы) некалькімі словамі *sorti meae* (майму лёсу), загадаў свайму лекару агледзець мяне. Адразу ж сабраліся такія дарадцы, што *svadebant* (параілі), каб мяне дабілі, але на шчасце ягамосць князь пан падчашы, брат мой[155], які аказаўся ў войску, забраў мяне да сябе, і я заставаўся *sub* (пад) ягонай *custodia* (аховай), аднак *non sine periculo* (не зусім небяспечнай). *Conclusum* (Пастанавілі) былі потым справадзіць мяне ў замэчак пана Эперыяша[156] альбо пана Крышпіна[157], названага [...], на

вечнае зняволенне, аднак гэтага не адбылося, бо заўсёды надараецца нейкая перашкода.

Адпачыўшы некалькі дзён, літоўскае войска выступіла да Філіпава. Мяне неслі на насілках, а пахолікі, зрабіўшы ў лесе засаду, хацелі забіць мяне, аднак полк ягамосці князя пана падчашага *fortuito* (выпадкова) натрапіў на іх і разагнаў, нічога не ведаючы пра іхнія намеры.

*[22] кастрычніка*, у нядзелю апоўдні, падышлі войскі шведскія і курфюрсцкія да Філіпава і вызвалілі мяне з вязніцы з Божай дапамогай і цудоўнай ласкай, бо ўсе *particularia* (абставіны) апісваць, як гэта адбывалася, няма патрэбы. Тым жа вечарам, уначы, дабраўся да шведскага лагера, усе генералы[158] наведалі мяне, і кожны, чым мог, мне дапамагаў, бо я не меў за душой ніякіх уласных рэчаў. Назаўтра адвёз мяне граф Вальдэк у Каралявец, а адтуль у Лабёва, да ягамосці курфюрста, які мяне *benignissime excepit* (найласкава прыняў). Ён ужо выслаў быў мне тры тысячы чырвоных злотых на выкуп праз жаўнера-стражніка з алебардай, які ў дарозе размінуўся са мной. Ад яго я накіраваўся ў Фраенбург да шведскага караля, які без капелюша збег да мяне ажно на дол і, абняўшы, ад радасці плакаў, а назаўтра прыслаў мне патэнт на фельдмаршала і абавязацельства на восемдзесят тысяч талераў. Фельдмаршальства я не прымаў,

а пра восемдзесят тысяч талераў ведаў, што не хутка атрымаю. З таго часу больш са шведамі знацца не хацеў, але заставаўся ў Лабёве з ягамосцю курфюрстам.

**Год 1657.** Згодна з даручэннем ягамосці курфюрста ездзіў з ягамосцю панам Швэрынам у Тыльжу (Тыльзіт — *Рэд.*) і, з'ехаўшыся за дзве мілі ад Тыльжы з ягамосцю панам Гасеўскім, 20 чэрвеня зрабіў першы крок да міру паміж ягамосцю каралём нашым і ягамосцю курфюрстам. Так сталася, што з той пары сяброўства паміж манархамі пачало ўсё больш наладжвацца.

*18 верасня* з'ехаліся ягамосць курфюрст з панам Гасеўскім у Велаве, адкуль, усе пункты міру абгаварыўшы, курфюрст выехаў у Быдгашч, прызначыўшы мяне 14 кастрычніка сваім генеральным намеснікам у Прусіі.

*30 кастрычніка* прыехаў я ў Быдгашч і ўпаў да ног ягамосці караля, *humanissime* (вельмі ласкава) быў прыняты ім і ў перамовах пры заступніцтве ягамосці імператара[159] і ягамосці курфюрста ён *cauta* (гарантаваў) мне і маім прыхільнікам амністыю. Правёўшы затым ягамосць курфюрста за горад, 6 лістапада развітаўся з ім, а сам паехаў у Каралявец, каб як мага хутчэй прыступіць да свайго губернатарства.

Праз некалькі дзён атрымаў я загад ад ягамосці курфюрста падрыхтаваць абарону ад шведаў. Але занадта слабае і не баявога духу войска пакінуў мне ягамосць курфюрст, таму дбаў я найперш пра тое, каб добра крэпасці абследаваць і *necessariis* (неабходным рыштункам) забяспечыць, абрабаваную пяхоту апрануць і склады падрыхтаваць, бо падчас непагоды і маразоў не мог нічога зрабіць.

**Год 1658.** *Primis diebus januarii* (На пачатку студзеня) прыплыў у Пілавы шведскі карабель, і, не рызыкуючы ісці далей з-за густых ільдзін і баючыся, каб гданьчане баркамі не акружылі яго і не спалілі, капітан прасіў пана Лакаву[160], пілаўскага губернатара, каб забраў на захаванне ў крэпасць дзвесце пяцьдзесят цэнтнераў пораху і шэсць тысяч гарматных ядраў, якія меў на караблі, чым я, калі даведаўся, быў вельмі задаволены, бо мы мелі мала боепрыпасаў. Гэта была першая звада са шведамі, пасля агляду карабель я не ўзяў, бо ён быў гнілы.

*30 ліпеня.* Пан палкоўнік Гіль захапіў на Гафе[161] шэсцьдзесят шведскіх рэйтараў, якія плылі ў Пілавы, з коньмі і з усім. Той жа Гіль па майму загаду 9 кастрычніка захапіў шанец каля Эльблонга, так званы Больварк, пераправіў да мяне 30 вязняў, а чатыры жалезныя гарматы загваздаў і вярнуўся ў Гафу.

*25 кастрычніка.* Вырушыў я з войскам з Галандыі і ішоў у Розенгард, каб злучыцца з войскам ягамосці пана ваяводы сандамірскага[162] і ўвайсці ў жулавы (асушаныя ўчасткі ў дэльце Віслы — *А. Б.*), але паколькі ягамосць пан ваявода сандамірскі захварэў, не магло дайсці да злучэння. Увайшоў тады адзін з войскам ягамосці курфюрста і адразу захапіў два рэдуты каля Эльблонга, а назаўтра захапіў вельмі файны шанец пад самым Нагатам, што называўся Клеменсфер. Затым праведаў я хворага ягамосця пана ваяводу сандамірскага, замест якога ягамосць кароль паслаў пад маю каманду ягамосця пана харунжага кароннага Сабескага з людзьмі. Тым жа днём атрымаў я лісты ад палкоўніка Гіля, што адабраў у шведаў ужо два шанцы — Юнгфраў[163] і Тыгеротэр.

*16 лістапада* прыслаў ягамосць кароль загад[164] мне, пану Камароўскаму, пану харунжаму кароннаму[165] і пану Пацу[166], а таксама палку ягамосці князя Дзмітрыя Вішнявецкага, каб усе яны заставаліся пад маім камандаваннем. Таксама тых людзей, што знаходзіліся ўВарміі, узяў я пад сваю абарону, і яны пайшлі са мной у Курляндыю.

**Год 1659.** Па вяртанні з жулаваў ад страшных нягод і смуроду наваліліся на мяне *circa finem januarii vertigo capitis* (пад канец студзеня галавакружэнне) і вялікая глухата, так што я некалькі ме-

сяцаў не ўставаў з ложка. Аднак ва ўсе бакі пасылаў я свае загады, якія з Божай ласкі заўсёды былі своечасовымі.

*29 сакавіка* палкоўнік Шэнак[167] разбіў дзве харугвы коннага эскадрону шведаў каля Марэнгі, а *die 23 eiusdem* (таго ж месяца) загадаў пану генерал-маёру Герцкаму[168] ісці ў Лібштад, які шведы *novissime* (нядаўна) захапілі, паслаўшы яму праз палкоўніка Патэрсана гарматы і *necessaria* (самыя неабходныя рэчы) для штурму. Злучыўшыся тады з ягамосцю панам Градзіцкім, якога ягамосць кароль таксама паслаў пад маё камандаванне, штурмам здабыў гэты горад і захапіў у палон оберлейтэнанта, двух маёраў, чатырох капітанаў, дзевяць паручнікаў, чатырох харунжых, трыццаць пяць унтэр-афіцэраў, дзвесце восемдзесят жаўнераў, а таксама восем харугваў, два карнеты і пару гармат.

*1 кастрычніка* выступіў з войскам у Курляндыю. Будучы ў Паланзе, даведаўся, што мой авангард пад камандай пана палкоўніка Шонэка захапіў шанец каля Лібавы і авалодаў самім горадам.

*10-га* сам я прыбыў у Лібаву, а 13-га падышоў да Грубіна[169]. 15-га[170] ўдарылі ўсе батарэі, якіх было пяць, і разбілі ў замку ўсе гарматы і флангі зруйнавалі. 19-га камендант папрасіў аб замірэнні, выслаўшы да мяне капітана Дугласа і капітана Брагу[171] *pro obside* (як закладнікаў). Я *vice versa*

(назад) паслаў у замак ротмістра Сліву[172] і капітана Клінгшпорна. Назаўтра да мяне прыехалі ягамосць пан кватэрмайстар Камароўскі і ягамосць пан пісар польны Палубінскі. Яны паказалі мне *conte order* (спрэчны загад) ад ягамосці караля: пад маёй камандай ужо не ісці і патрабаваць, каб я аддаў ім замак Грубін, але рабіць гэтага з-за розных прычын я не хацеў. Даручыўшы тады замак пану Шонаку, я вярнуўся ў Каралявец.

*16 лістапада* літоўскае войска паслала ягамосць пана Агінскага[173], ягамосць пана Цеханавецкага[174] і ягамосць пана харунжага Пратасевіча з просьбай да мяне, каб прыехаў у войска і стаў іхнім гетманам. Але атрымалі ад мяне адказ, што прыму гэтую прапанову не раней, чым ягамосць кароль зробіць мяне гетманам.

*24 eiusdem* (таго ж месяца). Загадаў я прускаму войску сабрацца каля Брондзберга, а ў Вармію ягамосці пану Паляноўскаму напісаў, каб таксама 28-га з чатырма харугвамі польскімі з'явіўся каля Брондзберга. У гэты тэрмін з'явіўся і я сам, бо выступіў з войскам увечары і ішоў усю ноч. Паміж чацвёртай і пятай раніцы праз сухі роў патрапілі нашы ў Эльблонгскае прадмесце. Там жа загадаў я маёру Дэнемарку захапіць шанец Гвязду, што ён і зрабіў, а гарматы загваздаў. Тады ж быў захоплены найлепшы Эльблонгскі млын і спалены з усім

збожжам. Злавілі некалькі афіцэраў і жаўнераў, але ў гасподу, дзе былі харугвы і карнеты, трапіць не ўдалося. Калі развіднела, ягамосць пан Паляноўскі ў сутычцы з'ехаўся з гофмістрам графа Магнуса[175] і атрымаў раненне ў правую руку з пісталета. Паказалі б сябе больш, але праваднікі, напіўшыся, не змаглі ўначы знайсці дарогі.

*6 снежня*, даведаўшыся, што пан Плейтнер[176] выйшаў з Бродніцы і без майго пропуску ідзе праз княства ягамосці прускага курфюрста, загадаў ш палкоўніку Гілю ўзяць іх разам з усімі людзьмі і з парай гармат і прывесці ў Каралявец; за што ягамосць пан Любамірскі, маршалак каронны, вельмі на мяне сердаваў, бо я не прапусціў людзей з ягоным пропускам.

**Год 1660.** Выехаў я *5 красавіка* з Караляўца спачатку ў Гданьск, дзе нанёс каралю і яемосці каралеве візіт, і заставаўся там чатыры дні. Тым жа днём, паведаміўшы ягамосці каралю і іншым паўнамоцным паслам, што ўдзельнічалі на гэтых перамовах, пра *interessa Domus meae* (справы майго дома), развітаўся з ягамосцю каралём і паехаў далей у Берлін, куды прыехаў *quarta maii* (чацвёртага мая) і быў ласкава прыняты ягамосцем курфюрстам.

*9 eiusdem* (таго ж месяца) прэзентаваў ягамосці курфюрсту трыццаць і дзве харугвы, тры карнеты

і вязняў, захопленых у розныя часы, якіх было васемнаццаць соцень.

*22.* Ехаў з ягамосцю курфюрстам праз Вітэнберг у Лейпцыг, дзе было мноства князёў і княгінь. Пасля з ягамосцю курфюрстам ездзіў на агляд Пейц.

*26 чэрвеня proprio motu* (з уласнай ініцыятывы) аддаў мне ягамосць курфюрст у пажыццёвае валоданне Прускае губернатарства.

*29-га* захварэў на ліхаманку, але, дзякуй Богу, яна не доўга мяне трымала.

*21 ліпеня* прыехаў саксонскі курфюрст[177] у Берлін і быў *magnificentissime exceptus* (вельмі цёпла прыняты). Мне надта ж дагаджаў і прасіў, каб я прыехаў да яго ў Дрэздэн. Таксама і яемосць жонка курфюрста[178], мая стрыечная сястра, тое ж наказвала.

*1 верасня* выехаў з Берліна і, спыніўшыся ў Голандзе[179], меў гаворку з ягамосцю панам Рэем[180], з якой зразумеў, што ягамосці курфюрсту не аддадуць Эльблонг. Пра гэта адразу ж даў знаць ягамосці курфюрсту, а сам вярнуўся ў Каралявец.

**Год 1661.** Пруская шляхта пачала, *non vocata* (не пакліканая), збірацца ў Караляўцы, выправіла да мяне дэпутатаў з просьбай дазволіць надалей не плаціць аніякіх кантрыбуцый. Збавіўся ад іх удала, *necessitatem* (неабходнасць) гэтага падатку даказаўшы.

*17 студзеня*, даведаўшыся, што тая ж шляхта *nociva* (зламысная) праводзіла ў касцёлах *conventicula* (малыя сходы, нарады), паслаў да іх пана палкоўніка Штрэйна, старасту нойгаўскага, і пана ландрата (чыноўніка адміністрацыі ў Прусах, які стаяў на чале павета — *А. Б.*) Рэдара, каб параілі ёй больш не збірацца і прыгразілі, што прыеду ў касцёл сам, каб разабрацца, аб чым яны раяцца. Гэта сапраўды была змова і яе падтрымалі прускія гарады, але яе ініцыятары — стары Сей[181] і Будэмброк, якія абодва не з'яўляюцца *indigenae* (жыхарамі) Прускага княства, убачыўшы, што пачынаецца карпатлівае расследаванне, парвалі той дакумент, выходзячы з касцёла.

*20 лютага* горад Каралявец падаў мне вельмі настойлівае прашэнне, якое, будучы папярэджаным, я не прыняў. Пасля выехаў з Прусіі і стаў 28 сакавіка паслом ад Бранска[182].

*30 мая* пачаўся прускі сейм. Ягамосць пан барон Шверын атрымаў ад курфюрста даручэнне і быў на ім маім калегай.

*7 чэрвеня* прыехаў я ў Варшаву. У наступны дзень памешчыцкая партыя хацела забараніць мне браць удзел у пасяджэннях Пасольскай Ізбы, спасылаючыся на тое, што я, як *minister externi principis* (слуга чужога ўладара), не маю права *ad negotia Reipublicae admissus* (быць дапушчаным да спраў

Рэчы Паспалітай), але, *firmissimis rationibus convicti* (перакананыя важкімі аргументамі), мусілі прызнаць мае доказы.

*13 eiusdem* (таго ж месяца). Пажадалі нанава разгледзець канстытуцыю адносна арыянаў і прывязаць нас, пратэстантаў, *per indirectum* (ускосна) да яе, і, калі б я не заўважыў, *eodem modo* (тым самым спосабам) мы, як і арыяне, з Польшчы *migrare* (эміграваць) мусілі б. Аддаў тады *solennem manifestationem* (урачысты маніфест) і не хацеў прыступаць да абмеркавання, жадаючы, каб тая канстытуцыя была сарвана. Нейкім чынам гэта ўдалося, хоць *non sine etiam vitae meae periculo* (нават не без пагрозы майму жыццю), бо былі такія *consiliarii* (дарадцы), свецкія і духоўныя, якія *argumentis falsissimis* (самымі фальшывымі аргументамі) даказвалі, што амністыя мяне, як ерэтыка, не можа датычыць, і патрабавалі судзіць мяне за мінулае і пакараць. *Clerus* (Духавенства) дабівалася гэтага, але два сумленныя *patriotae contradixerunt* (патрыёты супраціўляліся) таму і нават сам добразычлівы кароль *improbavit hoc consilium* (адхіліў гэтую параду).

*9 ліпеня* прапанаваў нам ягамосць сам кароль *materiam electionis* (справу элекцыі пры жыцці папярэдняга ўладара), надта падтакваючы пану Любамірскаму, маршалку кароннаму.

Тут *notandum* (неабходна зазначыць), што калі ягамосць кароль пачаў сваю прамову, то спярша зваліўся ў яго капялюш і выкаціўся на дол сенатарскай палаты, затым на палове прамовы выпала з рук жазло, а напрыканцы, калі садзіўся ў крэсла, ледзьве не паваліўся з-за сабакі, — усё гэта людзі прынялі *pro malo omine* (за злую варажбу). Аднак тым жа днём пэўным чынам адхілілі прапанаваную элекцыю.

Выехаўшы з Варшавы, паехаў я ў Бартэнштайн заканчваць 13 кастрычніка прускі сойм, бо з-за паветра (заразы — *А. Б.*) не мог знаходзіцца ў Караляўцы.

*3 лістапада* выехаў з Бартэнштайна ў літоўскі лагер. Не застаўшы там ягамосць караля, знайшоў яго ў Вільні, дзе спыніўся 28 *eiusdem* (таго ж месяца) і прэзентаваў ягамосці каралю маіх уласных людзей — шэсцьсот драгунаў і дзвесце рэйтараў. Кароль мяне міла прыняў і быў нечувана рады маім людзям, бо гэта былі нанава экіпіраваныя харугвы.

*29 eiusdem* (таго ж месяца) загадаў мне ягамосць кароль быць з ім *in consilio bellico* (на ваеннай нарадзе) і пачаць штурм Віленскага замка.

*2 снежня* загадаў мне ягамосць кароль скласці дыспазіцыю генеральнага штурму, чаго я рабіць не хацеў, не жадаючы тым самым пакрыўдзіць яга-

мосць пана гетмана Сапегу[183], але *ipso consentiente* (з ягонай згоды) мусіў *parere* (саступіць) каралеўскай волі.

*3 eiusdem* (таго ж месяца). Пачуваўся надта кепска, бо вывіхнуў нагу.

*4 eiusdem* (таго ж месяца). Маскавіты, не чакаючы штурму, звязалі свайго каменданта і аддалі замак ягамосцю каралю, а таксама свайго ваяводу князя [...][184] прывялі закаваным. Сама Масковія прызнала, што прычынай гэткай хуткай здачы быў прыход да Вільні маіх людзей, бо перад сваім прыездам у Вільню, падыходзячы ўначы з Вэрак, пад гарой я выстраіў сваіх людзей па адным у лінію і кожнаму драгуну і рэйтару, а таксама чэлядзі загадаў раскласці па восем вогнішчаў. Маскавіты, убачыўшы гэта з замка, падумалі, што са мной вельмі вялікае войска. Ранкам, калі ўваходзілі ў Вільню, я расцягнуў баявы парадак сваіх людзей як мага шырэй, і *sucessit* (удалася) мне гэтая *stratagemma* (хітрасць) вельмі добра.

*10 снежня* на рынку ў Вільні сцялі таму ваяводзе галаву. А за дзень да гэтага ягамосць кароль выехаў з Вільні і загадаў мне абавязкова ісці з войскам на Коўна, але я з пэўных меркаванняў рабіць гэтага не хацеў, кіруючыся вызначанай мной дарогай у Слуцк. Тым жа днём перадаў і падараваў ягамосці

каралю дзве з найлепшых маіх драгунскіх харугваў, капітанамі над якімі былі Флокі.

*28 eiusdem* (таго ж месяца) быў у Слуцку.

**Год 1662.** 30 студзеня быў на сойміку ў Менску, дзе абралі мяне дырэктарам кола, а таксама паслом на сойм[185].

*11 лютага* [1662] са Слуцка выехаў на сойм.

*19 eiusdem* (таго ж месяца), калі выязджаў з Мсцібава, атрымаў ад ягамосці пана маршалка канфедэрацкага Жыромскага просьбу завітаць да яго ў Волпу, калі буду праязджаць міма. Доўга разважаў, што рабіць, бо гэта была *res plena periculi* (справа вельмі небяспечная) з-за сітуацыі ў войску, аднак адважыўся і паехаў, маючы з сабой толькі слуг чалавек з дванаццаць, а драгунаў сто дваццаць. Застаў а чацвёртай пасля поўдня ўсіх п'янымі, урачыстую прамову да мяне склаў дарадца пан Навацкі, які толькі што прыехаў з кароннага войска ад канфедэратаў. Адзін толькі пан маршалак быў цвярозы. Вячэра спраўлялася без шуму, бо п'яныя разышліся па гасподах.

Назаўтра, *20 eiusdem* (таго ж месяца), дамаўляўся з панамі дарадцамі аб сваёй справе і атрымаў добрыя абяцанні. Сярод дарадцаў *praesentes* (прысутнымі) былі пан маршалак мазырскі Катоўскі, пан падкаморы ваўкавыскі Агінскі[186], пан Хрустоўскі і пан Навацкі. Ягамосць пан Вільчак запрасіў мяне на

сняданак. Мы былі ў добрым настроі, у нязмушанай абстаноўцы выпівалі да страты прытомнасці, але я выстаўляў сваё віно, бо гаспадар яго не меў. Пан Жыромскі хацеў станцаваць гапака, але параніў сабе шабляй нагу.

*6 сакавіка* прыехаў у Варшаву і засядаў у Пасольскай Ізбе.

*7 eiusdem* (таго ж месяца) пан варшаўскі[187] нагадаў мне рашэнне двара аб маім выгнанні[188] і хацеў забараніць мне ўдзельнічаць у пасяджэннях, але я адразу прымусіў яго змірыцца[189].

*8 eiusdem* (таго ж месяца) мазуры не хацелі даць слова пану маршалку вількамірскаму[190] і забаранілі яму насуперак усялякай слушнасці і праву прысутнічаць на пасяджэннях[191].

*15 eiusdem* (таго ж месяца) запатрабаваў ад мяне ягамосць кароль, каб я даў распіску аб тым, што пан Мяржынскі больш аніколі не будзе паслом, але рабіць гэтага я не хацеў.

*17 eiusdem* (таго ж месяца) вызначылі мяне дэпутатам ад пасольскага кола на вядзенне перамоваў з войскам Вялікага княства Літоўскага, якое знаходзілася каля Кобрына.

*2 красавіка* прыехалі ягамосць пан падканцлер літоўскі[192], ягамосць ксёндз біскуп хэлмінскі[193], ягамосць пан валынскі[194], ягамосць пан Жэльскі, яга-

мосць пан Падупента і ягамосць пан Пагірскі ў Андронава, што за мілю ад Кобрына.

*3 eiusdem* (таго ж месяца) войска паслала да нас чатырох дэпутатаў з просьбай, каб мы прыехалі ў Кобрын, *hoc annexo* (дадаўшы), што весці з намі перамовы не будуць, пакуль не прыедуць усе дэпутаты[195].

*4 eiusdem* (таго ж месяца) паслала войска дэпутатаў, наказаўшы, што ад рыцарскага кола дэпутатаў прыняць не хочуць, але іх мосці паны сенатары ніяк згадзіцца з гэтым не хацелі.

*8 eiusdem* (таго ж месяца) напісаў мне ягамосць кароль, каб вяртаўся ў Варшаву, што я і зрабіў. Але перад выездам з Андронава зладзілі супраць мяне вельмі злую *consilium* (задуму). Асабліва актыўным быў драгунскі паручнік ягамосці пана пісара Палубінскага, з Прусіі *plebeius* (плябей)[196], які падбухторваў войска, каб наехала на маю гасподу. Але Бог дапамог: рыхтуючыся да гэтага, ён гойсаў на кані і зламаў сабе шыю.

*26 eiusdem* (таго ж месяца) вярнуўся я ў Варшаву, дзе і іншыя іх міласці паны камісары, нічога не зрабіўшы, каля пераправы[197] дагналі мяне.

*29 eiusdem* (таго ж месяца) *in pleno consilio senatus* (на пасяджэнні сената) з'явілася заява ягамосці караля аб тым, што справа, звязаная з дараваннем

і канфіскацыяй для войска маёмасці нябожчыка князя пана гетмана, майго брата, *subsistere* (працягвацца) не павінна — як дзеянне незаконнае.

*1 мая* пры завяршэнні сойма прыйшла вестка аб тым, што канфедэраты наступаюць на Варшаву, пасля чаго пачалася вялікая паніка. Ягамосць кароль адразу загадаў, каб я ўзначаліў ягоную гвардыю і старанна ахоўваў замак, але пазней яемосць каралева і пан маршалак надворны Апалінскі[198] вельмі моцна крытыкавалі яго за тое, што *custodiam corporis sui* (ахову сваёй асобы) ён даверыў мне[199].

*13 eiusdem* (таго ж месяца) з Божай дапамогай я паспяхова вярнуўся ў Каралявец.

*20 eiusdem* (таго ж месяца) каралеўскі горад звярнуўся да мяне просьбай больш не плаціць акцызаў (падатку на тавары, выробленыя ў краі — *А. Б.*).

*9 ліпеня* горад паслаў маладога Рода ў Варшаву, яны заключылі дамову і прысягнулі, што адзін аднаму не будуць здраджваць. Тым жа днём сабраў я бурмістраў і папракаў іх за гэта, але яны ўсё адмаўлялі.

*15 eiusdem* (таго ж месяца). Мяшчане зноў паслалі да мяне, паведамляючы, што збіраюцца пасляць Рода да ягамосці караля, і калі я ім гэтага не дазволю, то *armata manu* (са зброяй у руках) хочуць

давесці яго да Варшавы. Адказаў, што буду чакаць іх у полі і што сустрэну іх як непрыяцеляў, бароначы горад. У той жа дзень мяшчане пачалі выходзіць з харугвамі на ахову валоў, а я бліжэйшыя рэйтарскія харугвы таксама размясціў каля горада, так што ніводзін чалавек без майго дазволу не мог ні выехаць, ні ўехаць у горад.

*27 eiusdem* (таго ж месяца) хацеў стары Рода незаўважна выйсці з горада, але яму гэта не ўдалося, і таму 28 *eiusdem* (таго ж месяца) быў у горадзе вялікі бунт.

*17 жніўня* мяшчане абстралялі з вала маіх рэйтараў. Я вырашыў тады захапіць Рода і патаемна ўвёў у замак некалькі соцень мушкецёраў, але антрэпрыза не ўдалася, бо яго ахоўваў кульгавы Шымельфеніг[200].

*20 кастрычніка* прыехаў ягамосць курфюрст у Пілавы. Там я прэзентаваў яму восемсот рэйтараў, дзевяцьсот драгунаў, чым ён быў вельмі задаволены.

*25 eiusdem* (таго ж месяца) ягамосць курфюрст уязджаў у Каралявец *magnificentissime* (надзвычай удала). Суправаджала яго каля трох тысяч чалавек пад харугвамі. Вячэраў у мяне і быў вясёлы.

*27 eiusdem* (таго ж месяца) паслаў ягамосць курфюрст ліст да Рода, каб з'явіўся ў замак, але той не

захацеў і зняважыў палкоўніка Нэтэльхоршта, які прыходзіў з лістом ад курфюрста.

*29 eiusdem* (таго ж месяца). Ягамосць курфюрст загадаў мне, каб *quocumque modo* (якім-небудзь чынам) захапіў Рода. Падрыхтаваўся я тады як след і, вывеўшы на досвітку ў прадмесце дзве тысячы пяхоты, восемсот рэйтараў і шэсцьсот драгунаў, 30 *eiusdem* (таго ж месяца) а дзевятай перад поўднем захапіў Рода ў ягоным доме і, пасадзіўшы ў скарбны воз, прывёз у замак. Тым жа днём пасля абеду ягамосць курфюрст ездзіў па горадзе ў карэце і паказваўся мяшчанам.

*15 лістапада.* Паслаў горад Каралявец дэпутатаў да ягамосці курфюрста, віншуючы ягамосць курфюрста з *superioritatem* (правам вышэйшым) і прызнаючы ягоную *supremum dominium* (найвышэйшую ўладу).

*1 снежня* мне паведамілі, што канфедэраты захапілі і забілі ягамосць пана Гасеўскага[201].

**Год 1663.** 1 кастрычніка. *A statibus Prussae* (Ад прускіх станаў) ягамосць курфюрст прымаў *homagium supreme domini* (прысягу на вернасць суверэннаму ўладару). Пасламі ад ягамосці караля былі ягамосць ксёндз біскуп вармінскі[202] і ягамосць пан падканцлер каронны Ляшчынскі[203]. За курфюрсцкім сталом у вялікай каралявецкай залі сядзела толькі

шэсць асобаў: двое каралеўскіх паслоў, курфюрст, пасол іспанскі[204], я і пасол княгіні ландграфавай гескай[205].

*20 eiusdem* (таго ж месяца). Гасціў у сябе паслоў ягамосці караля.

*22 eiusdem* (таго ж месяца). Іх мосці паны паслы ягамосця караля выехалі.

*29 eiusdem* (таго ж месяца). Ягамосць курфюрст выехаў у Мархію[206], я правёў яго ажно да Віслы.

*29 лістапада* вярнуўся я ў Каралявец.

**Год 1664.** 11 студзеня прыехаў ягамосць пан князь віленскі[207] з яе міласцю княгіняй[208] да мяне ў Каралявец і заставаўся да 26 *eiusdem* (таго ж месяца).

*23 сакавіка* выехаў з Караляўца і спыніўся ў Варшаве.

*7 красавіка.* Меў непрыемную аўдыенцыю ў яемосці каралевы і 11 *eiusdem* (таго ж месяца) выехаў з Варшавы. Мне абяцалі пасля смерці Выхоўскага вярнуць Бар, але пасля аддалі яго камусьці іншаму *cum summa iniuria mea* (на маю вялікую крыўду).

*20 мая* ў Камянцы-Мазавецкім прадаў свой маёнтак у Старой Вёсцы ягамосцю пану падскарбію кароннаму Красінскаму.

*29 eiusdem* (таго ж месяца) вярнуўся ў Каралявец.

*29 чэрвеня* ў Мемелі[209] зноў пачала балець мая нага. Адтуль паехаў я ў Грубін пабачыцца з княгіняй паннай маёй пляменніцай[210].

*9 ліпеня* вярнуўся ў Мемель.

*16 eiusdem* (таго ж месяца) вярнуўся ў Каралявец.

*10 верасня.* Выбраўся я з Караляўца на Русь і 30 *eiusdem* (таго ж месяца) спыніўся ў Слуцку.

*9 кастрычніка* пахаваў я старога слугу майго дома пана Альбрэхта Дубоўскага, стольніка новагародскага, і захварэў на каменную хваробу.

*16.* Быў у Менску на сойміку.

*17 eiusdem* (таго ж месяца). Выбралі мяне паслом на сойм разам з панам Вяжэвічам, менскім харунжым.

*19 eiusdem* (таго ж месяца). Вярнуўся ў Слуцк.

*20 лістапада* выехаў са Слуцка, а 11 снежня прыехаў у Варшаву.

*17 eiusdem* (таго ж месяца). Зноў захацелі чыніць мне *difficultatem* (перашкоды) у пасяджэннях Пасольскай Ізбы.

**Год 1665.** 2 студзеня. Асудзілі ягамосць пана Любамірскага, маршалка вялікага кароннага, і апублікавалі *decretum* (вырак).

*3 eiusdem* (таго ж месяца) прысягалі супраць яго[211] *corrupti* (падкупленыя) сведкі.

*5 eiusdem* (таго ж месяца). Пакаралі смерцю паноў Катоўскага і Невяроўскага за забойства пана Гасеўскага.

*17 eiusdem* (таго ж месяца) падчас аўдыенцыі ахвяраваў мне ягамосць кароль староства Камянецкае[212] пасля несправядліва асуджанага пана Любамірскага, але браць яго я не захацеў, сказаўшы, што *ex exuviis aliorium ditescere* (узбагачацца скурай, злупленай з іншых) не хачу.

*28 eiusdem* (таго ж месяца). Вярнуўся я ў Каралявец.

*7 мая.* Атрымаў ад Папы дазвол на шлюб з маёй пляменніцай княжной.

*2 ліпеня.* Памерла мая сястра княгіня, яе міласць жонка падканцлера кароннага пані Ляшчынская, пасля якой мне было абяцана староства Міжрэчыцкае[213], але, нягледзячы на ранейшае абяцанне, яго аддалі падлізе двароваму[214], а мне далі зразумець, што больш ні на што не магу спадзявацца.

*1 жніўня* з Вільні паведамілі мне пра смерць добразычлівага слугі майго дома пана маршалка вількамірскага[215], улюбёнца князёў Крыштофа і Януша Радзівілаў, што мяне моцна засмуціла.

*30 верасня.* Прыехалі ў Каралявец ягамосць князь пан віленскі[216] і ягамосць пан Карыцкі, а 2 кастрычніка ад'ехалі.

*1 лістапада* выехаў я з Караляўца.

*4 eiusdem* (таго ж месяца). Спыніўся ў Мемелі.

*17 eiusdem* (таго ж месяца). Прыехаў я ў Лібаву.

*21 eiusdem* (таго ж месяца). Прыехала мая пляменніца княжна ў Гробін.

*22 eiusdem* (таго ж месяца). Суправаджаў яе ў Лібаву разам з ягамосцю панам падчашым літоўскім[217]. У дзень святой Кацярыны адбыўся мой шлюб.

*28 eiusdem* (таго ж месяца). З Божай дапамогай паспяхова вярнуўся з маёй жонкай у Мемель.

*14 снежня.* Мая жонка вельмі дрэнна пачувалася ў Тыльжы.

**Год 1666.** 18 студзеня. Накіраваў у Варшаву просьбу да ягамосці караля наконт Віленскага ваяводства і вялікай булавы: *inquantum utrumque* (у выпадку, калі б абедзве годнасці) ягамосці князю пану віленскаму надаць не захацелі, але *repulsam tuli* (атрымаў адмову).

*19 eiusdem* (таго ж месяца). Выехаў з Тыльжы, пакінуўшы там жонку.

*31 eiusdem* (таго ж месяца) быў у Караляўцы.

*10 лютага.* Пачалася пруская канвакацыя (Генеральны з'езд — *Рэд.*).

*9 сакавіка.* Канвакацыя закончылася. *Status* (Станы) дазволілі падушны падатак, які складацьме для курфюрста шэсцьдзесят тысяч талераў.

*18 сакавіка.* Прыехаў у Кейданы і там абмяркоўваў свае справы са слугамі, якіх дзеля гэтага сабраў.

*14 красавіка* вярнуўся я ў Каралявец.

*5 мая.* Пакараў мяне Бог выкідышам у маёй жонкі.

*14 eiusdem* (таго ж месяца). Пачаўся прускі сойм.

*18 чэрвеня.* Адправіў ягамосць князя клецкага Станіслава[218] ў чужую зямлю за свой кошт і праводзіў яго ажно да Брандэнбурга.

*23 eiusdem* (таго ж месяца). Прыехаў да мяне пасол Вількамірскага[219] павета з просьбай ад брацііі (агульная назва польскай шляхты, у прыватнасці з вуснаў магнатаў — *А. Б.*) прыехаць да іх і паведаміў, што яны хочуць пайсці паспалітым рушэннем супраць маскавітаў (якія наступаюць з Дынабурга).

*5 жніўня.* Нягледзячы на розныя меркаванні, прускі сойм закончыўся паспяхова і Станы на два гады дазволілі акцызы для курфюрста.

*25 eiusdem* (таго ж месяца). Дайшла да мяне вельмі балючая вестка пра смерць адзінакроўнага

брата майго ягамосці саксонскага князя Франца Эртмана.

*26 eiusdem* (таго ж месяца). Зноў засмуціў мяне Бог хваробай маёй жонкі.

*16 верасня.* Выехаў з Караляўца на соймік.

*28 eiusdem* (таго ж месяца). Уязджаў у Вількамір, і ўся шляхта сустракала мяне ў полі.

*29 eiusdem* (таго ж месяца). Стаў паслом разам з ягамосцю панам маршалкам лідскім[220].

*2 кастрычніка.* Спецыяльна прыехаў у Вільню, каб пабачыцца з ягамосцю князем панам ваяводам віленскім[221] і абмеркаваць пільныя справы.

*6 eiusdem* (таго ж месяца). Выехаў з Вільні.

*18 eiusdem* (таго ж месяца). Вярнуўся ў Каралявец.

# Заўвагі

1 *...графіня брандэрбургская...* — Соф'я Эльжбета Гогенцолерн.

2 *...купленым...* — у іншым варыянце «Аўтабіяграфіі» дапісаны сказ: «А пасля ад маці дзядзьку майму маркграфу Хрысціяну пакінутым».

3 *...22 жніўня ў Вільню...* — удакладненне даты паводле іншай рэдакцыі «Аўтабіяграфіі».

4 Крыштоф II Радзівіл.

5 *...ўпершыню прыняў я камунію...* — у кальвінісцкім касцёле ў Кейданах.

6 *...паню матку, якая памерла...* — дата смерці 24 снежня 1629 года звычайна падаецца ў публікацыях, магчыма, паводле старога стылю, але Багуслаў у «Аўтабіяграфіі» пазначае смерць маці 1630 годам.

7 Маці Багуслава на самай справе памерла пры чарговых родах, праз дзесяць месяцаў пасля нараджэння Францішка Германа.

8 *...князем саксонскім...* — князем саксонскім Лаўэнбургскім, пасля бацькі свайго Юліюша Генрыка.

9 Леў Сапега.

10 Жыгімонт III Ваза.

11 Ян Юрскі.

12 Фрыдэрык Старк.

13 *...пры... сваёй цётцы...* — пры Магдалене Гогенцолерн.

14 *...Артлібіа.* — у Георга Гартліба.

15 *...ягамосць князь брэсцкі...* — Хрысціян.

16 *...ля Бандымiравай Мойзы...* — «мойза» па-літоўску азначае «фальварак».

17 Штальганс — верагодна, Штальгаўс.

18 *...шведскай каралевы...* — Ганны Вазы.

19 *...у чужыя краіны...* — паводле іншай рэдакцыі: «у чужыя землі».

20 Матыяш Медычы.

21 Ганс Вітцгумб фон Эхштэт.

22 Норд-Галандыя — паўночная частка правінцыі Галандыі.

23 Пераемнік французскага трона — Людовік XIV.

24 Гэты прывілей быў прыняты ў Варшаве 5 ліпеня 1638 года.

25 *...французскага караля і каралеву...* — Людовіка XIII Бурбона і ягоную жонку Ганну Аўстрыйскую.

26 Маці французскага караля — Марыя Медычы.

27 Каралева англійская — Генрыета Марыя Бурбон.

28 Курфюрст гейдэльбергскі — Карл I Людовік.

29 Карл I Сцюарт.

30 *...каб я [прыехаў да яго].* — Удакладненне паводле іншай версіі «Аўтабіяграфіі».

31 *...кардынала — наступніка караля...* — Фердынанда Аўстрыйскага.

32 *...каралевіча...* — Яна Казіміра Вазу.

33 Генрык Насаўскі — Генрык Казімір, граф Насаў-Дыленбург.

34 12 ліпеня 1640 года.

35 *...злавілі...* — паводле іншага тэксту: ротмістра «мой лёкай злавіў».

36 Лукаскэр альбо Саласкэр.

37 *...ў Кейданы, у Віжуны* — фрагмент пашкоджаны, узноўлены паводле іншага тэксту.

38 Юрый Вільгельм.

39 Георг Фрыдрых Вальдэцк.

40 Імя «Генрык» дапісана ў іншым варыянце рукой Багуслава Радзівіла.

41 *...аўрыянскаму князю...* — Фрыдэрыку Генрыку фон Насаў.

42 *...у Лейдзе пры...* — аднаўленне пашкоджанага тэксту паводле іншай версіі.

43 Канстанцін Аляксандр Астрожскі-Заслаўскі.

44 *...з князем Тальмонтам...* — з Генры Шарлем дэ ля Трэмуае, прынцам Тальмон.

45 *...князя Латрымуля...* — князя Генры дэ ля Трэмуае.

46 У іншым варыянце — родам з Бурдо.

47 Гобурт — д'Гаўкур, у іншым варыянце пададзена папраўленая форма яго прозвішча: Гакурт.

48 Кароль французскі — Людовік XIII Бурбон.

49 *...ў Сандэні...* — пахаванне адбылося 22 мая 1643 года ў Сен-Дэні пад Парыжам.

50 *...князя Кандэ...* — Луіса II д'Энж'ена, князя дэ Кандэ, названага Вялікім Кандэ.

51 *...яе міласць каралева...* — Ганна Аўстрыйская.

52 Княжна дэ Роан — Маргарыта дэ Роган.

53 Княжна дэ ля Форс — Шарлота дэ ля Форс.

54 *...з братам маім...* — з Янушам Радзівілам, сынам Крыштофа Радзівіла.

55 Княгіня неверская — Людвіка Марыя Ганзага дэ Неверс.

56 Выезд з Польшчы, апісаны вышэй, меў месца ў ліпені 1645 года.

57 *...перад пасламі...* — гэта былі каралеўскія паслы: Крыштоф Апалінскі і Вацлаў Ляшчынскі.

58 арлеанскі граф — Гастон Бурбон, князь арлеанскі.

59 Шаваньяк — граф Гаспар дэ Шаваньер. У сваіх запісах апісаў сварку князя Багуслава з графам дэ Рые.

60 Лямот, *lescuyer de Monsieur* — ля Мотт, канюшы Гастона, князя арлеанскага.

61 граф дэ Шацiён — Гаспар III дэ Каліні, дзюк-пэр Шацье.

62 Ёсіас, граф дэ Рантзаў.

63 У 1646 годзе Вялікі чацвер выпадаў на 5 красавіка.

64 *...жонка ягоная...* — Ганна дэ Арнан.

65 Вінсенскі лес — Вінсенскі каралеўскі замак каля Парыжа. Цяпер у межах французскай сталіцы.

66 *...аўрыянскага князя...* — Фрыдэрыка Генрыка.

67 Маўрыкій Вітэльсбах.

68 Паводле «Жыццяпісу Б. Радзівіла» барон дэ Гое, напэўна, барон Грот.

69 30 000 ліўраў.

70 *...на элекцыі...* — 22 лістапада 1648 года на полі Воля пад Варшавай.

71 Біскуп кракаўскі — Пётр Гембіцкі.

72 Адам Казаноўскі.

73 *...з ханам...* — з Іслам-Гірэем III.

74 Аляксандр, князь Пронскі, кальвініст, быў пахаваны побач з сястрой Марыяй (Марухнай) ля кургана (5 км ад Берастэчка), на якім узведзены яму помнік, што яшчэ існаваў у XIX ст.

75 Як вынікае з вышэйпрыведзенага тэксту, Эліяш Арцішэўскі ўжо не жыў у 1651 годзе.

76 *Назаўтра...* — 28 чэрвеня 1651 года.

77 *...на рынку...* — на гандлёвым пляцы ў лагеры.

78 *...у чацвер рана...* — 29 чэрвеня 1651 года.
79 Юрый Любамірскі.
80 *...Сапегу...* — Павел Ян Сапега.
81 Адам Геранім Казаноўскі.
82 Юрый Асалінскі (памёр у 1651 годзе). Стараста люблінскі.
83 *...ханскі падскарбі...* — Муфра мурза, суродзіч і падскарбі хана.
84 *...гетман каронны...* — Мікалай Патоцкі.
85 Выраз «*калі ардынцы адступалі*» ўстаўлены паводле адной з версій «Аўтабіяграфіі».
86 Цэлебі, чэлебі — тытул турэцкі. Прыслугоўваў духоўным асобам і князям, а таксама свецкім саноўнікам.
87 Выраз ужываецца толькі ў адной з версій «Аўтабіяграфіі».
88 Да 8 ліпеня.
89 *...з канстанцінопальскім патрыярхам...* — з Эўдоксіем, патрыярхам антыёхскім.
90 *...да Крамянца...* — Крамянец на Валыні, у адным з варыянтаў «Аўтабіяграфіі» памылкова названы перапісчыкам Крамянцом-Падольскім.
91 *In fine septembris...* — у іншым варыянце *in septembre.*
92 *...з Папскім легатам...* — з Янам дэ Торас.
93 *...стаў святаром Венграўскай парафіі...* — каталіцкай парафіі ў Венграве, што на зямлі драгіцкай, горадзе, які стаў уласнасцю Багуслава Радзівіла.
94 Відаць, гаворка пра дэпутата ў Духоўны трыбунал.
95 *...да ксяндза біскупа луцкага ў Янаў...* — да Андрэя Гембіцкага ў Янаў-Падляшскі.
96 Пётркаўскі трыбунал — Галоўны Трыбунал у Вялікай Польшчы.

97 *...ваявода кракаўскі...* — Уладзіслаў Дамінік Заслаўскі-Астрожскі.

98 Мікалай Патоцкі.

99 Гаворка пра бітву з казакамі і татарамі 2 і 3 чэрвеня 1652 года.

100 Жупраны былі закладзены разам з фальваркамі Мантоўшчышкі і Навасёлкі 6 чэрвеня 1652 года на тры гады за 40 000 злотых Марціну Фанэндзе.

101 Ґрубяжэвічы (Рубяжэвічы) былі закладзены 8 чэрвеня 1652 года разам з Рудзіцай і фальваркамі Негарэлае і Ґнешкі на тры гады за 92 000 злотых Грыгорыю Мірскаму і ягонай жонцы.

102 Далятычы былі закладзены 8 чэрвеня 1652 года разам з фальваркамі Паўбераг і Вераскова на тры гады за 50 000 злотых Яну Отэнгаўзу, оберлейтэнанту яго каралеўскай мосці і ягонай жонцы.

103 Вязынь разам з фальваркам Крысава была закладзена 6 чэрвеня 1652 года на тры гады за 53 000 злотых Марціну Фанэндзе. Акрамя таго, тым жа днём заклаў Багуслаў таксама на тры гады маёнтак і мястэчка Волму ў Менскім ваяводстве і маёнтак Гарадзец за 50 000 Марціну Каштэлі, якому забяспечваў таксама 600 злотых штогадовага даходу са староства Пашырвінскага.

104 *...прыйшлі мы да Камянца-Падольскага...* — 16 верасня 1653 года.

105 У Бар Багуслаў вырушыў 3 кастрычніка 1653 года, паводле адной з версій «Аўтабіяграфіі», «з пятнаццацю харугвамі».

106 *...што быў вымушаны сядзець не піўшы і не еўшы.* — Паводле адной з версій «Аўтабіяграфіі» «Вялікую заставу

пустэчу», фрагменту ад «што» да «ні еўшы» ў тым варыянце няма.

107 *...старастам вінніцкім...* — Андрэем Патоцкім.

108 У іншым варыянце: «Гэтае войска ішло пад Жванец. У маёй дарозе ў Бар адбыўся той цуд, што там, у букавым лесе за мілю ад Бара, я знайшоў фіна» і далей, як у гэтым тэксце.

109 *...князя курляндскага...* — Якуба Кетлера.

110 У іншым варыянце: «па скуры ягонай».

111 У іншым варыянце: «карпа з'еўшы, вярталіся мы назад да Камянца».

112 Хан — Іслам-Гірэй III.

113 У іншым варыянце няма імені візіра.

114 Стэфан Карыцінскі.

115 У іншым варыянце: «У боты была ўклала».

116 *...панам Любамірскім, маршалкам надворным...* — Юрый Любамірскі. Аднак у 1653 годзе ён быў маршалкам вялікім каронным. Маршалкам надворным быў з 1650 года Лукаш Апалінскі.

117 *...да Новага лета.* — Да Новага года.

118 *...горача ягамосці караля... просяць...* — кандыдаты на Полацкае ваяводства абіраліся шляхтай, і толькі з чатырох абраных электараў кароль прызначаў ваяводу.

119 *...ў ягамосці князя канцлера Вялікага княства Літоўскага...* — Альбрэхта Станіслава Радзівіла.

120 У іншым варыянце: «але амаль у той жа момант прыбег бацька езуіта...»

121 Масковія захапіла Полацк 27 чэрвеня 1654 года.

122 У іншым варыянце: «увайшоў з войскам літоўскім пад камандаваннем нябожчыка брата спярша ў Быхаў Сапегаў, дзе нябожчык брат захварэў, пасля пад Новы

Быхаў Слушкаў». Януш Радзівіл прыбыў у Стары Быхаў Сапегаў на пачатку студзеня 1655 года.

123 Новы Быхаў, уласнасць Слушкаў, абараняў шасцітысячны атрад казакаў Івана Залатарэнкі.

124 Багуслаў Пшыпкоўскі.

125 Запусты прыпадалі ў 1655 годзе на пачатак лютага, а папяльцовая серада (першы дзень Вялікага посту — *Рэд.*) — на 10 лютага.

126 У іншым варыянце: «пана Сасноўскага і маёй».

127 Паводле іншага варыянта: «мой оберлейтэнант Путкамер».

128 Якуб Вейгер альбо Людвік Вейгер.

129 *...і для рамонту старой.* — Удакладнена на падставе іншай рэдакцыі.

130 *...бачыўся з братам...* — дата пададзена памылкова, бо сустрэча адбылася апошнімі днямі ліпеня, а не жніўня, Вільня была занята царскім войскам 7 жніўня.

131 Шведскі кароль — Карл Густаў.

132 У іншым варыянце памылкова капіроўшчык напісаў: «у гэтым годзе».

133 У іншым варыянце замест назвы пустое месца. А ў гэтым пазней дапісана: «Зашкаў».

134 У іншым варыянце знаходзіцца польскі выраз: «з парады маіх непрыяцеляў» замест лацінскага ў гэтым тэксце.

135 *...гетманы...* — Станіслаў Патоцкі, званы Рэвера, і Станіслаў Ланцкаронскі.

136 *...аддаліся ім.* — Гэта было 28 кастрычніка і 13 лістапада 1655 года (прысяга на вернасць шведскаму каралю).

137 Граф Магнус — Магнус дэ ля Гардзье (Дэлягардзі — *Рэд.*) (1622–1686), шведскі фельдмаршал, канцлер Швецыі.

138 Павел Ян Сапега.

139 *...наконт Шаўлі...* — каралеўская ўласнасць шаўлійская на Жмудзі, аддадзеная шведамі Янушу Радзівілу, стала вакантнай пасля яго смерці.

140 У іншым варыянце значна карацей: «у той час, калі ўжо ўсе каронныя і літоўскія гетманы былі разам з ім. Неяк і пан Сапега прасіў, каб я за яго ў караля шведскага Шаўлі папрасіў, прывітаўшы караля шведскага».

141 17 студзеня 1656 года ў Караляўцы.

142 *...пана брата...* — Януша Радзівіла, які памёр 31 снежня 1655 года.

143 Крыштоф Сапега.

144 У іншым варыянце тэкст іншы: «Адпомсціў таксама Караткевічу, які падбухторваў маіх людзей, калі каралю паветы хацеў аддаць, грошы забраўшы, я разбіў яго дашчэнту ў Харошчы і ўвесь полк ягоны разбіў».

145 *...шведскай каралевы...* — Ядвігі Элеаноры Гальштэйн-Готарп.

146 Галава Гданьская.

147 Адольф Ян.

148 28—30 ліпеня 1656 года.

149 Ян Ляшчынскі.

150 Ізраэль Рыдэргельм.

151 Вінцэнт Корвін Гасеўскі.

152 Георг Фрыдрых Вальдэк.

153 Напэўна, Станіслаў Свінарскі.

154 *...хлопца майго, Сулоўскага...* — напэўна, сына Траяна Сулоўскага.

155 *...брат мой...* — Міхал Казімір Радзівіл.

156 Крыштоф Эперыяш, замак Панямонь.

157 Геранім Крышпін Кіршэнштэйн, уласнік Чырвонага Двара.

158 *...усе генералы...* — Густаў Ота Штэнбок, Георг Фрыдрых Вальдэк і Ота Крыштофер Шпар.

159 *...ягамосці імператара...* — Леапольда I.

160 Лакава — ла Кава.

161 *...на Гафе...* — Фрышэр Гаф, Віслянскі заліў (заліў Свежы).

162 *...ваяводы сандамірскага...* — Аляксандра Канецпольскага.

163 12 верасня 1659 года Юнгфраў знаходзіўся, напэўна, зноў у шведскіх руках.

164 Загад каралеўскі ад 13 лістапада 1658 года захаваўся ў архіве.

165 *...харунжаму каронnaму...* — Яну Сабескаму.

166 Міхал Казімір Пац.

167 Георг Шонайх.

168 *...маёру Герцкаму...* — Іахім фон Гёрцке.

169 Гробін, замак у Курляндыі, капітуляваў у кастрычніку.

170 15 кастрычніка 1659 года.

171 Камендант і абодва капітаны не ўстаноўлены.

172 Напэўна, ротмістр фон Шляйбэн з Тункляк альбо ротмістр Вольф фон Шляйбэн (Шлівэн).

173 Марцін Аляксандр Агінскі.

174 Ольбрыхт Цеханавецкі.

175 Магнус дэ ля Гардзі.

176 Ёхан Пляйтнэр, шведскі палкоўнік, камендант Бродніцы, капітуляваў 10 снежня 1659 года.

177 *...саксонскі курфюрст...* — Ян Юрый II Ветын.

178 *...жонка курфюрста...* — Магдалена Сыбіла.

179 У гэтым варыянце была памылка: «у Галандыі»; папраўлена паводле іншага варыянта.

180 Уладзіслаў Рэй.

181 Палкоўнік Мантойфель, прадстаўнік шляхты Клайпедскага павета ў ландтагах, альбо палкоўнік Ян Сей Мантойфель, прадстаўнік шляхты павета Шока.

182 Соймік у Бранску, які выбіраў паслоў Бельскай зямлі на сойм, адбыўся 28 мая 1661 года.

183 Павел Ян Сапега.

184 Пустое месца ў іншых варыянтах, у тым ліку ў гэтым. Быў ім князь Даніла Яфімавіч Мышэцкі, царскі ваявода віленскі з канца 1659 года, пакараны смерцю 10 снежня 1661 года на рынку ў Вільні.

185 Выбар наступіў паводле *Diar. pryw.* 31 студзеня *unanivi consensus;* другім паслом стаў Стэфан Цадроўскі.

186 Шыман Караль Агінскі быў падкаморым віцебскім, а не ваўкавыскім.

187 *...пан варшаўскі...* — Ян Аборскі, кашталян варшаўскі ў 1655 і яшчэ ў 1668 годзе.

188 *...рашэнне двара аб выгнанні...* — невядома, падчас якой судовай справы асудзілі Багуслава на выгнанне.

189 *...змірыцца.* — Паводле *Diar. pryw.* Радзівіл заплаціў 2000 злотых за адмову ад супраціву ў справе абрання яго дэпутатам соймавым у войска, а каралева заплаціла выраней «таму ж здрайцу» 1000 флорынаў за ягонае выступленне, калі паводле *Diar. pryw.* прапанова кашталяна варшаўскага была інспіравана дваром.

190 *...маршалку вількамірскаму...* — Яну Мяржынскаму.

191 Не згадаў тут Багуслаў Радзівіл пра свой пратэстны сыход з Пасольскай Ізбы і невяртанні ў яе на працягу некалькіх дзён.

192 *...падканцлер літоўскі...* — Аляксандр Нарушэвіч.

193 *...ксёндз біскуп хэлмінскі...* — Андрэй Альшоўскі.

194 *...пан валынскі...* — Ян Францішак Любавіцкі.

195 Паведамленне гэтае ў *Diar. pryw.* ад 2 красавіка, затое дзень наступны выкладзены там іначай: «Паслала войска да нас весці перамовы, што прымаць чатырох дэпутатаў не хочуць, без якіх і іншыя панове камісары ехаць не хацелі». Пасля войска адхіліла чатырох дэпутатаў ад Пасольскай Ізбы, а не выслала ў Андронава сваіх чатырох дэпутаў.

196 *...з Прусіі plebeius...* — напэўна, Матыс Стэналь (Мацей Штанчак), капітан-лейтэнант і камендант драгунскага эскадрона Палубінскага ў 1662 годзе, альбо Ёхан Крыстан Вайроўскі, капітан-лейтэнант у драгунскай харугве Палубінскага ў тым жа годзе.

197 *...каля пераправы...* — пераправа цераз Віслу каля Варшавы.

198 Лукаш Апалінскі (1612–1662).

199 Паводле *Diar. pryw.* князь Багуслаў Радзівіл пакінуў Варшаву на пяць альбо шэсць дзён пазней, 6 альбо 7 мая.

200 Марцін Шымельфенінг.

201 Вінцэнт Гасеўскі.

202 *...ксёндз біскуп вармінскі...* — Ян Стэфан Выджга.

203 Ян Ляшчынскі.

204 Аб прыбыцці іспанскага пасла ў Каралявец паведаміў Багуслаў Радзівіл Шчаснаму Марштыну ў лісце ад 25 чэрвеня 1663 года.

205 *...княгіні ландграфавай гескай...* — Ядвігі Соф'і.

206 *...у Мархію...* — Мархія Брандэнбургская.

207 *...ягамосць пан князь віленскі...* — Міхал Казімір Радзівіл.

208 *...з княгіняй...* — з Кацярынай Радзівіл з Сабескіх.

209 *...у Мемелі...*— у Клайпедзе (ням. Memel).

210 *...з маёй пляменніцай.* — з Ганнай Марыяй Радзівіл.

211 Сведак абвінавачання было дванаццаць.

212 Староства Камянецкае, напэўна, знаходзілася на Мазоўшы з цэнтрам у Камянцы-Мазавецкім.

213 Пра староства гэтае прасіў караля Багуслаў Радзівіл у лісце ад 27 червеня 1665 года.

214 *...падлізе двароваму...* — старастай міжрэчыцкім быў у 1670 годзе Пётр Апалінскі.

215 *...маршалка вількамірскага...* — Яна Мяржынскага.

216 *...ягамосць князь пан віленскі...* — Міхал Казімір Радзівіл.

217 *...падчашым літоўскім...* — Герардам Дэнгофам.

218 Станіслава Казіміра Радзівіла.

219 *...пасол Вількамірскага павета...* — Зыгмунт Гінтаўт.

220 *...маршалкам лідскім...* — Тэафілам Дуніным-Раецкім.

221 *...ваяводам віленскім...* — Міхалам Казімірам Радзівілам.

# Як і ў якім годзе да ваенных функцый быў далучаны

**Год 1640.** У Галандыі ў Гаазе перадаў мне Генрых, аўрыянскі князь (Фрыдэрык Генрык — *А. Б.*) пешы полк і палкоўніцтва над ім праз старшага [...] свайго, якога звалі сеньёр [...]лы, з той адзінай умоваю, каб я сам ім кіраваў, выказваючы мне поўны давер і даючы на гэта грошы, але паколькі часу для набору было замала, я адмовіўся.

**Год 1648.** *Durante minorennitate* (У час маленства) у Францыі, пасля смерці Людовіка XI (гаворка пра маленства Людовіка XIV, пасля смерці Людовіка XIII, якога Багуслаў памылкова называе Людовікам XI — *А. Б.*), ахвяраваў мне кардынал Мазарыні ў Парыжы праз маркіза дэ Руйяк генеральства над чужаземнымі людзьмі, якія заставаліся на французскай службе, з тытулам *colonel general des toutes les troupes estrangeres* (генерал-палкоўнік замежных атрадаў). Паабяцалі мне плаціць як генералу штогод 10 000 талераў, акрамя таго, як палкоўніку, 12 000 фларэнаў, так што я на год тую

службу прыняў быў. Але паколькі наступіла смерць караля Уладзіслава, будучы пакліканым цяперашнім уладаром Янам Казімірам на элекцыю, з пачаткам казацкай вайны мусіў *renuncі* (адмовіцца) ад той пасады і служыць Айчыне.

**Год 1649.** Пасля каранацыі Яна Казіміра ачуняў я ад цяжкай сваёй хваробы і прыехаў у Варшаву, дзе атрымаў загад набіраць чужаземныя атрады. На што ўзяў дазвольны ліст і такую распачаў дзейнасць, як бы меў званне вышэйшае за палкоўніка, паколькі ў Францыі ўжо атрымаў такое высокае ваеннае становішча. З намерам засведчыць мне сваю ласку кароль ягамосць прызначыў мяне генералам усёй сваёй каралеўскай гвардыі і аддаў усё войска чужаземнае, што было ў лагерах, пад маю каманду. Яно заставалася пад маім кіраўніцтвам ад пачатку берастэчкаўскай бітвы і ажно да жванецкай, пасля, калі маскавіты распачалі вайну, паехаў я ў літоўскае войска і заставаўся там аж да нешчаслівай здачы Вільні і ўварвання шведаў у Каралеўства.

**Год 1655.** Тым годам, пасля ўступлення шведаў у Польшчу і захопу Варшавы, пачаў сваім коштам набіраць войска ў Бранску (Падляшскім — *Рэд.*) для ратавання пана і Рэчы Паспалітай. Там жа ваяводства Падляшскае аб'явіла мяне ў Бельску сваім генералам, і я, адабраўшы 3000 чалавек з літоўскага войска, стаў лагерам каля Цеханаўца.

І адразу накіраваў двух казакаў да ягамосці караля і пана канцлера Карыцінскага, цяпер нябожчыка, ахвяруючы свае паслугі пану. Але мусіў чакаць жаданага адказу *cum summon dispendio temporis* (з вялікай стратай часу) і з немалым коштам і адвагай, бо шведы ўсюды мелі верхавенства. І вось *quidem* (сапраўды) вярнуліся абодва мае казакі з двара, але без аніякага адказу, і толькі пан палкоўнік Бокум напісаў мне звычайны камплімент. У выніку такіх адносін да майго дабрадзейства і маёй вернасці мусіў я, даведзены *ad exstrema* (да крайнасці), асабліва пасля захопу Кракава, Торуні і пераходу ўсяго кароннага войска з камандзірамі да шведаў, а таксама пасля сыходу караля з краіны, таксама *partes sveticas seqi* (далучыцца да шведскага лагера), але быў самым апошнім, хто да шведаў падаўся. Бо толькі тады, калі 31 снежня 1655 года набраныя літоўскія харугвы здрадзілі мне і адступілі, захапіўшы грошы, у Галандыю, і кароль шведскі там лагерам стаў, я да яго і прыехаў.

**Год 1656.** Ахвяраваў мне кароль шведскі Карл Густаў праз графа Шліпенбаха (Хрыстофер Карл Шліпенбах — *А. Б.*), які ў час шторму на моры патануў, фельдмаршальства, гэта значыць, гетманства польнае, але я яго не прыняў. Аднак, калі кароль карыстаўся маімі паслугамі, я як гетман заўсёды трымаўся, і генерал-лейтэнанты мусілі слухацца

мяне, як Дуглас (Роберт Дуглас — *А. Б.*), які ішоў да Тыкоціна, мусіў мне *parere* (быць паслухмяным) ва ўсім, і генерал-маёр Ізраэль (Ізраэль Рыдэргельм, пра ягонае падпарадкаванне загадам Багуслава Радзівіла пацвярджае ў сваім лісце да караля Габрыэль Вайніловіч з Простак — *А. Б.*).

**Год 1657.** Калі князь электар у Быдгашчы з найяснейшым каралём Янам Казімірам заключаў мір, з жадання імператара і ягамосці курфюрста атрымаў і я сваю амністыю і *comprehensus in pactis* (быў заняты перамовамі). Акрамя таго атрымаў я дазвол ад ягамосці караля на паступленне на службу да курфюрста, які зрабіў мяне генеральным губернатарам свайго Прускага Княства і гетманам над усімі людзьмі, якія былі і мусілі быць калісьці ў тым Княстве, даў мне тое, што за год прыносіла 20 000 талераў.

# Калі войны праводзіць пачаў і ў якіх ваенных падзеях браў я ўдзел

**Год 1637.** Калі я выязджаў у чужую зямлю, а па паморскай зямлі дарога да Гамбурга выпадала па сушы, застаў на паморскай зямлі войскі шведскія і імператарскія. А паколькі меў наказ у інфармацыі цяпер ужо нябожчыка, дзядзькі майго (Крыштофа Радзівіла — *А. Б.*), каб генералу Врангелю (Карл Густаў Врангель — *А. Б.*) далажыўся, калі дзе пра яго пачую, то, ведаючы, што ён знаходзіўся са сваім сынам, цяперашнім шведскім адміралам, у Грыпсвальце, скіраваўся да яго і быў *humanissime susceptus* (вельмі ласкава прыняты). Той жа ноччу Галас, імператарскі галоўнакамандуючы, з фларэнцкім князем Матыяшам перакрылі шведам праход да Трыпсы і забілі шведскага генерал-лейтэнанта Вітзума, што вельмі ўзрушыла Врангеля. Ён з войскам, Групсвальт акружыўшы, пад Стральзунд рэцыравацца мусіў *cum summo periculo* (у вялікай небяс-

пецы). Імператарскія воі дэ Крабаці (выраз незразумелы, Крабаці — харваты — *А. Б.*) на нашу тылавую стражу напалі, але нічога не маглі зрабіць, ні нам *impedire gressum* (у паходзе нашкодзіць).

**Год 1639.** Знаходзіўся пад Гедынам, калі яго захапіў французскі кароль Людовік XI (насамрэч Людовік XIII, кароль Францыі — *А. Б.*). Там жа падчас прарыву сеньёр дэ Мільгерай аб'явіў рашэнне аб заняцці мной вакансіі маршалка французскага. Пікаламіні хадзіў на выручку, але прыйшоў позна.

**Год 1640.** Быў пад [...]слекла ў першым галандскім лагеры каля Мальдыгама ў той час, калі граф Генрых (Генрык Казімір граф Насаў-Дыленбург — *А. Б.*) меўся пераходзіць праз канал каля Брузы, але яму перашкодзілі. Там паранілі Эрантруітура.

У тым жа годзе пайшлі мы з войскам пад Гульст. Готрыў, французскі палкоўнік, захапіў прыморскі форт Насаў, а граф Генрык атакаваў на другі дзень форт, званы Святой Ганнаю (форты Насаў і Святая Ганна абаранялі крэпасць Гульст — *А. Б.*), але ён быў *repulsus* (адбіты) падмацаваннем, якое тэрмінова прыслаў іспанскі генерал граф дэ Фантанэ, і *gloriose* (дастойна) загінуў, забіты з пісталета. У ягоным палку, у якім было 15 пяхотных рот, усе афіцэры загінулі, акрамя двух чэшскіх харунжых і аднаго швейцарскага паручніка, іх усіх на піках бачыў. Князя ля Форца (Арманд Номпар дэ Камон — *А. Б.*)

параніла ў руку. Полк эрантруітыраў таксама пабілі, дэ Мэ забілі, *simile* (гэтаксама) маладога палкоўніка Горынга і Вайкервіля забілі. Сант Ібаль захапілі былі, але нас усіх полк рэйнграфаў ад іспанцаў адбіў і іспанскага ротмістра Саласкарыя мой лёкай злавіў. Надта крывавай была гэта бітва, — пачалася паміж дзявятай і дзесятай уначы, а доўжылася ажно да пятай раніцы. Галандцы мусілі пайсці на перамовы, іспанцы таксама панеслі вялікія страты, бо адных толькі капітанаў страцілі шэсць.

**Год 1641.** Падступіліся мы з аўрыянскім князем (Фрыдэрыкам Генрыкам — *А. Б.*) да Гелдрыі, але дождж перашкодзіў аблозе, і мусілі мы адступіць да Райнберка.

**Год 1642.** Адправілі з Райнберка паўтары тысячы коннікаў і шэсць соцень пяхоты генеральнага гэмісара (выраз незразумелы — *А. Б.*) Райнграфа на варту пад Гелдрыю, каб полк графа Ізамбрука і другі іспанскі, які з Гелдрыі да Венлаў праз Стрален ішоў, перанялі, што і адбылося. Раніцай на грэблі паміж Страленам і Венлаў гэтыя палкі заспелі знянацку і разбілі. Я быў валанцёрам, меў у гэтай сутычцы авангард з пяцццюдзесяццю валанцёрамі, сярод якіх быў князь лінебурскі (Георг Вільгельм — *А. Б.*), два графы — фон Вальдэк і высакародны шляхціц Генрык дэ Дана, якія мяне не пакінулі. Ударылі мы тады па тых, што на грэблі, дзе скарысталіся

вялікай перавагай, бо з аднаго боку ім шкодзіла багна, а з другога боку — роў альбо Рэйн. Нам дапамагло і тое, што пачаўся дождж і згасіў усе кнаты. Разбілі мы іх, захапілі пяць харугваў, трох капітанаў, двух паручнікаў, шасцёра харунжых і 300 вязняў. Ніводзін непрыяцель не ўцёк бы, але Райнграф выпадкова трапіў у багну і разам з канём быў захоплены іспанскімі рэйтарамі. Пасля таго мы засталіся без кіраўніка і не асмельваліся больш *tentare* (спакушаць лёс). У той бітве князя лінебурскага ў правую нагу з мушкета паранілі. Графа Вальдэцка (Георг Фрыдрых Вальдэк — *А. Б.*), цяперашняга генерала шведскай кавалерыі, таксама паранілі ў бядро трымя кулямі, у выніку чаго ён стаў калекам. У графа Дана забілі каня, а майму каню трыма пікамі шыю прабілі. Мне самому ўжо адстрэленым мушкетам па руцэ дасталася так, што ледзь не ўпаў з каня.

**Год 1645.** Знаходзіўся пры іспанскім войску з Пікаламінам, калі французы акружылі Гравелінг, хацелі дапамагчы, але дарэмна.

**Год 1646.** Удзельнічаў у захопе Сасудэгента аўрыянскім князем, які прымусіў капітуляваць Кука дэ Меге, каторы пасля капітуляцыі стаў камендантам у аўрыянскага князя.

**Год 1651.** Удзельнічаў у бітве пад Берастэчкам, якая пачалася ранкам у сераду, а закончылася ве-

чарам у пятніцу. У гэтай бітве ўдзельнічаў разам з правым чужаземным крылом. Мой пяхотны полк прывітаў Арду, якая адразу атакавала. Праз два тыдні, калі мы акружылі казакаў, а яны адыходзілі з акопа, я перайшоў праз фартыфікацыю Губальдаў і моцна граміў казакаў, што адыходзілі, паклаўшы ў лясочку 800 трупаў. Але я таксама страціў добрых афіцэраў — майго маладога карнета Корфа і іншых. З другога боку ад лагера Патоцкага (Мікалай Патоцкі — *А. Б.*) пан Чарнецкі (Стэфан Чарнецкі — *А. Б.*) уцекачоў граміў і прычыніў непрыяцелю вялікую шкоду. Іхні лагер *tandem* (урэшце) з амуніцыяй і гарматамі захапілі. Малады дзяцюк забіў таксама старога канстанцінопальскага патрыярха (Еўдоксій, патрыярх антыахійскі — *А. Б.*) і прынёс ягоную галаву.

**Год 1653.** Пайшоў я з ягамосцем каралём пад Жванец. Выехалі ў лагер *primis diebus januarii* (першымі днямі студзеня), заставаліся ў лагеры, акапаўшыся, *usque ad 12 decembris* (ажно да 12 снежня). У гэты час каля Камянца была заключана дамова з крымскім ханам (зІсламам-Гірэем III — *А. Б.*).

**Год 1655.** Ішоў у літоўскае войска пасля Шапялевіцкай бітвы (бітва пад Шапялевічамі адбылася 24 жніўня 1654 года — *А. Б.*), там, каля Новага Быхава, мяне параніла з самапала ў палец. Пазней, здабываючы Магілёў, самым першым увайшоў у

горад з рэйтарамі. Там жа, на Дняпры, падстрэлілі ў лоб каня, што быў пада мной.

**Год 1656.** Перамог у Крэмені Юдыцкага, у Высокім-Мазавецкім — Катоўскага, дапамог Тыкоціну, а Караткевічавы харугвы забраў. Затым у Янаве перашкодзіў ісці (?) гетманскай харугве пад каманДай пана... (тэкст пашкоджаны. Вядома толькі адна харугва, якая стаяла ў Янаве, яе ротмістрам быў вялікі гетман Павел Сапега — *А. Б.*).

Знаходзіўся пры ўзяцці Галавы (Галава Гданьская — *А. Б.*) і шанца Спыталь, які няшчадна і без жалю па-тыранску знішчылі.

Другі раз дапамог Тыкоціну, які акружыў быў Аскерка з паспалітым рушэннем, што налічвала 15 000 войска, а сам меў толькі 2500 сваіх людзей.

**Год 1656.** Днямі была рашаючая бітва пад Варшавай. Пачалася яна ў пятніцу, а скончылася ў нядзелю апоўдні. Палубінскі мужна супрацьстаяў, і шведы выйгралі.

**Год 1656.** Была бітва пад Просткамі, дзе я быў узяты ў палон харунжым Супана Казы-агі і моцна паранены. Пазней быў панам [Вайніловічам] адбіты ў ардынцаў і пану Гасеўскаму (Вінцэнт Корвін Гасеўскі — *А. Б.*) аддадзены.

**Год 1656.** Быў каля Філіпава палонены ў бітве, там жа быў адбіты ў шведаў і *libertati pristine* (страчаную вольнасць) *restitutus* (вярнуў). Караткевіча

забілі, а Паклонскага злавілі. Брат князь пан падчашы (Міхал Казімір Радзівіл — *А. Б.*) мужна змагаўся, але мусіў уцякаць.

**Год 1659.** Вярнуў ад шведаў штурмам Лібштат, а ў Курляндыі забраў у іх горад Лібаву і замак Гробін *per deditionem* (на падставе дамовы аб капітуляцыі). Увайшоў быў таксама ў Эльблонгскае прадмесце, дзе набраў палонных і зруйнаваў найпатрэбнейшы ім млын. Пасля ўзяў у іх Клеменсфер каля Нагата і захапіў усе вэрдры альбо жулавы (асушаныя ўчасткі ў дэльце Віслы — *А. Б.*). Больварк пад Эльблонгам захапіў, што для іх таксама было сюрпрызам.

Усё гэта адбывалася *usque ad annum* (ажно да года) 1660.

## Генералы, якія былі ў тых паходах пад маёй камандай:

пан Градзіцкі, генерал артылерыі каroннай;
пан фельдмаршал лейтэнант Дуглас (Роберт Дуглас — *А. Б.*);
пан граф Вальдэк (Георг Фрыдрых Вальдэк — *А. Б.*), генерал-лейтэнант брандэнбургскай кавалерыі;
пан Баўэр, генерал-лейтэнант брандэнбургскай інфантэрыі;
пан Гейстар, імператарскі генерал-маёр;
пан Губальт, генерал-маёр;

пан Гортцке, генерал-маёр;
пан Ізраэль, генерал-маёр (Ізраэль Рыдэргельм — *А. Б.*);
пан Горн, генерал-маёр (Густаў Карлсан Горн альбо Генрык Горн — *А. Б.*);
пан Берант, генерал-маёр;
фон Донаф, генерал-лейтэнант (відаць, Ян Дэнгоф — *А. Б.*);
генерал-маёр Эўленборг.

У Прусіі пад маёй камандай былі палкоўнікі:

ля Гаў,
Гольц (Рудзігер фон дэр Гольц — *А. Б.*),
Шонак (Георг Шонайх — *А. Б.*),
Вальрад Марцін (Марцін Валенрод — *А. Б.*),
Вальрад, брат ландэсмагістра (відаць, Генрых Валенрод — *А. Б.*),
Састро,
Поленц,
Шміт,
Гольц,
Штрайн,
Галле,
Эўленбург,
Гілле,
граф Вітэнштайн,
Таўльбрэкер,
Клінгспорн,

Бэцкам (магчыма, Бэлікум — *А. Б.*),
Палерыён,
Гоэндорф,
Аўр,
Нэбельсхорст (Хрыстоф Гільдэбрандт фон Нэтэльхорст — *А. Б.*),
Галендэр,
Сфэрын,
Каніц фон Бальге (магчыма, Георг Фрыдрых Каніц фон Бальге — *А. Б.*).
Падпалкоўнікамі ў мяне былі:
Бэрк,
Бокум,
Буткамер, забіты (Эберхард Путкамер — *А. Б.*),
Ясперс,
Патэрсон,
Поленц,
Робак,
Лёбель,
Блок,
Кёлер,
граф Донаф (Дэнгоф, магчыма, Ян — *А. Б.*).
Маёрамі:
Валь (Зыгмунт Вагль або Валь — *А. Б.*),
Штраўс,
Грос,
Бербант, баязлівец,
Дэнбінскі,

Корнхаўзэн, забіты,
Глянос,
Карлінк,
Бекер.

У польскім войску пад маёй камандай былі палкоўнікі:

ягамосць Вольф, палкоўнік ягамосці караля;
ягамосць пан накельскі Грудзінскі (Жыгімонт Грудзінскі альбо ягоны брат Андрэй Караль — *А. Б.*);
ягамосць пан Сакен, палкоўнік князя курляндскага;
ягамосць пан фон Донаў (Фрыдэрык Дэнгоф — *А. Б.*);
ягамосць пан Генрых Донаў;
ягамосць пан Філалабас;
ягамосць пан Фелькірсан;
ягамосць пан Мэйдэль (відаць, Ян Майдэль — *А. Б.*);
ягамосць пан Разражэўскі;
ягамосць пан Губальд;
ягамосць пан Цэлары;
ягамосць пан Гротхаўс;
ягамосць пан Шафгоц;
ягамосць пан Вальрот (Генрых Валенрод — *А. Б.*);
ягамосць пан Сакен (Саламон Сацкен — *А. Б.*);
ягамосць пан Лескват (Тэадор Лешгэванг — *А. Б.*).

Стаў я харунжым, стаў я канюшым, дадзена мне староства Ашмянскае, староства Мазырскае, генеральства над гвардыяй, дадзена староства Барскае, староства Бранскае, ваяводства Полацкае, аддадзена камандаванне над літоўскім войскам пасля Гасеўскага (відаць, Багуслаў Радзівіл мае тут на ўвазе камандаванне, прапанаванае яму ў 1659 годзе на той час, калі Вінцэнт Гасеўскі быў у палоне — *А. Б.*).

Ад караля шведскага 80 тысяч талераў, ад яго ж фельдмаршальства, ад яго ж Голуб, Нойштат, Брацьян, хацелі мне даць Торунь (звесткі не пацверджаныя — *А. Б.*).

Берастэчка, Жванец, Прут, дзе меў быць, Новы Быхаў, Магілёў, фартыфікацыйныя работы ў Слуцку і адданне палка, Варшаўская бітва, тыкоцінскія справы, Простці, Філіпаў, шанец Бульварк (Больварк — *Рэд.*), умацаванне Вэрдара (Жулавы Гданьскія — *А. Б.*), Клеменсфорт, Вейерсхоф, Гробін, уварванне ў Эльблонг, Паляноўскі, захоп Гробіна.




По загадзе Багуслава Радзівіла слуцкую цытадэль і крапасныя сцены з бастыёнамі з 2 красавіка да 10 жніўня 1654 года збудаваў Шкот Вільгельм Патэрсан.



Панарама Гданьска (Данцыга) ў 1635 годзе.
*Гравёр Якабс Хофман.*



Кейданы. Кальвінскі збор.
*Малюнак Напалеона Орды. 1875 год.*




Клецк.

*Гравюра Томаша Макоўскага. XVII стагоддзе.*



Перамога радзівілаўскіх войск над украінскімі казакамі
ў бітве пад Берастэчкам 28–30 чэрвеня 1651 года. *Невядомы мастак.*




Магілёў.

*Фрагмент гравюры Васіля Вашчанкі. 1702 год.*



Панарама Берасьця (Брэст-Літоўска).

*Малюнак Эрыка Дальберга. 1657 год. Захоўваецца ў Каралеўскай бібліятэцы Швецыі.*

# ПАДАРОЖНЫ ДЗЁННІК
## Багуслава Радзівіла
## 1620—1669 гадоў

**1620**

| | |
|---|---|
| 3.V—11.VII | Гданьск (Данцыг) |

**1621**

| | |
|---|---|
| XII.1620 альбо I.1621 | выезд у Вільню на пахаванне бацькі, Януша Радзівіла, падчашага ВКЛ, кашталяна віленскага, старасты барысаўскага |
| 16—27.II | Вільня, 16 лютага быў на пахаванні бацькі |
| 21.VI | Рыконты, Гегужын, Жэймы |
| 21—23.VI | Жэймы |
| 23.VI | Жэймы, Кейданы |
| 24.VI | Кейданы, Срэднік |
| Пачатак VII | Кейданы |
| VIII (пасля 31.VII) | ездзіў з Караляўца ў Эльблонг |
| 3—22.VIII | Эльблонг |

| | |
|---|---|
| Да 31.X | прыехаў у Гданьск з Эльблонга |
| Канец 1621 | Гданьск |
| **1623** | |
| 10.I | Смолдзіна |
| **1623 альбо 1624** | выехаў у Ліхтэнберг, што ў Футляндзе, у Франконіі |
| **1627** | |
| 31.VII—1.IX | Ліхтэнберг |
| **1628** | |
| 27.II | Тэйзынг, быў на шлюбе маці, Соф'і Эльжбеты Гогенцолерн |
| 9—10.VII | Варшава |
| 11.VII | выязджаў з Варшавы ў Старую Вёску, Сялец, Ружаны, Слонім, Новагародак (Навагрудак — *Рэд.*), Беліцу і Яшуны |
| 22.VIII | прыехаў у Вільню |
| Каля 12.X | прыехаў у Далятычы (Дзялячічы — *Рэд.*) |
| 13—15.X | Далятычы |
| Перад 26.XII | прыехаў у Кейданы |

## 1629

| | |
|---|---|
| Каля 2.III | выехаў у Агінты |
| 23.III | вярнуўся з Агінтаў у Кейданы |
| 23.III—11.IV | Кейданы |
| 2.VI—3.VII | Кейданы |
| 28.VIII | Жупраны |
| 7.IX | Кейданы |
| Каля 20.XII | прыехаў у Далятычы (альбо ў Рубяжэвічы) |

## 1630

| | |
|---|---|
| 27.II | Рубяжэвічы |
| 27—28.II | візіт у Засулле |
| 6.III | Рубяжэвічы |
| 13.VI—1.XI | Далятычы |

## 1631

| | |
|---|---|
| 25.II | Варшава |

## 1632

| | |
|---|---|
| 16.V—7.IX | Кейданы |

## 1633

| | |
|---|---|
| 9.III | Вільня |
| 6.V | Кейданы |
| VIII—IX | Кейданы |
| 9.IX—1.XII | Вільня |

| | |
|---|---|
| **1634** | Кейданы |
| **1635** | |
| 9—12.III | Кейданы, вайсковы лагер |
| Лета | каля Бандыміравай Мойзы, што ў Інфлянтах |
| Восень і зіма | Дубінкі |
| **1636** | |
| 27.IV | Вільня |
| 25—30.VI | Вільня |
| 30.VI | выехаў з Вільні на пахаванне каралевы Ганны Ваза |
| 16.VII | Торунь, быў на пахаванні каралевы Ганны Ваза |
| 9.XII | Ашмяны (абраны паслом) |
| **1637** | |
| Каля 20.I—1.III | Варшава (на сойме) |
| 19.V | Біржы |
| Канец VII | выехаў з Вільні за мяжу |
| 2.IX | сеў на карабель у Гданьску |
| 10.IX | вярнуўся ў Гданьск |
| 16.X | Гданьск |
| 10.IX—16.X | выехаў на караблі ў Галандыю праз Заходняе Памор'е |

| | |
|---|---|
| 5.XI | удзельнічаў у бітве каля Трыбзэе |
| XI—XII | Любек, Гамбург |
| XII | Дэльфзійл |
| 24.XII | прыехаў у Гронінген |

**1638**

| | |
|---|---|
| 22.III | Гронінген |
| 15.IV | выехаў з Гронінгена |
| 28.V | Утрэхт |
| Каля VI | Амстэрдам |
| 1.X | Утрэхт |
| Каля XI | Гаага, Флісынг і Мідэльбург, адплыў з Флісынга ў Дыепу |
| Перад 4.XII | Руан |

**1639**

| | |
|---|---|
| 16.I | прыехаў у Парыж |
| 16.I—III | Парыж |
| 6.III | Сен-Жэрмен-эн-Лау |
| III—IV | Парыж |
| Канец IV—V | выехаў з Парыжа, падарожнічаў па Францыі |
| 4.VI | Парыж |
| Каля 2.VII | Парыж |
| Паміж 1 і 9.VIII | выехаў з Галаса, прыбыў на дацкае ўзбярэжжа і ў Лондан |
| VIII і IX | Лондан |

| | |
|---|---|
| Палова X | прыехаў у Дорт, што ў Галандыі |
| XII.1639 і I.1640 | Утрэхт, Гаага |

**1640**

| | |
|---|---|
| II | выехаў з Ротэрдама ў Англію |
| III | выехаў з Англіі ў Галас |
| 20.III | прыехаў у Парыж |
| 27.III | праводзіў каралевіча Яна Казіміра за шэсць міль ад Парыжа |
| Пасля 17.IV | Брусель |
| IV і V | Антверпен і Амстэрдам |
| Да 30.V | Эмбдэн і Ольдэмбург |
| Паміж 21.V і 15.VI | прыехаў у галандскі лагер у Мальдыгам |
| Каля 2.VII | удзельнічаў у бітве за форт дэ Насаў |
| 3/4.VII | удзельнічаў у няўдалым штурме форта Святая Ганна каля Гульста |
| Каля 17.VII | адступаў з-пад Гульста |
| 30.VII | удзельнічаў у арганізацыі лагера паміж Райнбергам і Гелдрыяй |
| VIII | удзельнічаў у аблозе Гелдрыі |
| 5.IX | адступленне з-пад Гельдрыі, марш у Райнберг |

| | |
|---|---|
| Каля 25.IX | прыехаў у Гаагу |
| Канец XI | вярнуўся ў Польшчу |

**1641**

| | |
|---|---|
| 1.I | Каралявец (цяпер Калінінград — *Рэд.*) |
| Каля 15.I | Кейданы |
| 21.I | Свядасць |
| 22.I | Віжуны, быў на пахаванні дзядзькі, Крыштофа Радзівіла, ваяводы віленскага і вялікага гетмана ВКЛ |
| Каля 20.II | Слуцк |
| 28.II | Койданава |
| Каля 30.VI—3.VII | Вільня, сустракаўся з кузенам Янушам Радзівілам |
| Каля 5.VII | Кавалеўшчына (у А. Слушкі) |
| 9.VII | Навагародак (на сойміку) |
| Каля 12.VII | Варшава |
| 5.VIII | прыезд у Генепу |
| Восень | Гаага і Утрэхт |

**1642**

| | |
|---|---|
| Зіма 1641/42 | Францыя (?) |
| Да 31.I | Брусель |
| 21.VI | прыбыў у лагер у Райнбергу |

| | |
|---|---|
| 1.VII | удзельнічаў у сутычцы паміж Страленам і Венлаў |
| Каля 20.VII | Лейда |
| Апошнія дні VII | галандскі лагер пад Райнбергам, паядынак з князем Тальмонтам |
| VIII—IX | Вена |
| X—XII | Гаага |
| 25.XII | выехаў з Гаагі ў Францыю |

**1643**

| | |
|---|---|
| 22.V | Сен-Дэні, быў на пахаванні караля Людовіка XIII |
| 17.VIII | Брусель |
| 12.XI | Брусель |

**1644**

| | |
|---|---|
| 17.VIII | Брусель |
| 12.XI | Брусель |
| Канец XI | выехаў з Бруселя ў Польшчу |
| Да 5.XII | вярнуўся ў Польшчу |

**1645**

| | |
|---|---|
| 13—21.IV | Слуцк |
| 17.V | Вільня (?) |
| 12.VII | Гданьск |
| Некалькі тыдняў да 3.XI | прыехаў у Парыж |

| | |
|---|---|
| 3—27.XI | Парыж |
| 27.XI | выехаў з Парыжа |
| 7.XII | выехаў з Пяроны ў Камбраў, што ў іспанскіх Нідэрландах |

**1646**

| | |
|---|---|
| 24.VIII | Брусель |
| IX | Кастыльё-дэ-Амбероз на галандскай мяжы (па дарозе ў Галандыю) |

**1647**

| | |
|---|---|
| 17.XII | прыехаў у Антверпен |

**1648**

| | |
|---|---|
| II —V | Брусель |
| V | Клеве (Клівія) |
| VI | Брусель |
| 30.VIII | Гаага |
| 25.X | прыехаў у Гданьск |
| 8.XI | Гданьск |
| 22.XI | Варшава (элекцыя) |
| 7.XII | Старая Вёска |
| 16.XII | прыехаў у Брэст |
| 16—21.XII | Брэст-Літоўскі |
| 21.XII | выехаў у Кракаў на каранацыю |

**1649**

| | |
|---|---|
| Каля 19.I | уехаў у Кракаў |
| 16.II—11.V | Кракаў |
| V | Варшава |
| 17.V | Слуцк |
| 27.VI | Вільня |
| 28.VII | Івань пад Слуцкам |
| 9.VIII | Далятычы |
| Каля 10.IX | Слонім |
| 13.IX | Брэст-Літоўскі |
| Каля IX | Асецкае |

**1650**

| | |
|---|---|
| 6.XII.1649—30.I.1650 | Варшава |
| 5.IV | Варшава |
| 25.VI | Старая Вёска |
| 3.IX | Старая Вёска |
| 22.X | Старая Вёска |
| 31.X—1.XI | Сялец |
| 11.XI | Новагародак, соймік перадсоймавы |
| 20.XI | Далятычы |
| Каля 3.XII | прыехаў у Варшаву на сойм |

**1651**

| | |
|---|---|
| 11.XII.1650—15.I.1651 | Варшава (быў на нарадзе ў А. С. Радзівіла) |
| 20.III | Варшава |

| | |
|---|---|
| 5.IV | Старая Вёска |
| 13.IV | Варшава |
| Пасля 13.IV | выехаў з Варшавы ў Люблін |
| 5—10.V | Люблін |
| 21—28.V | лагер пад Сокалам |
| 28—30.VI | Берастэчка, удзельнічаў у бітве з казакамі, Крамянец |
| 23.VII | Львоў |

**1652**

| | |
|---|---|
| 29.III | Венграў |
| 4.IV | Слуцк |
| 30.IV | Вільня |
| 6—8.VI | Вільня |
| 11.VII | Далятычы |
| 15.VII | Асташын, пазней нанёс візіт у Бялу-Падляску альбо ў Нясвіж |
| 29.VIII—5.IX | Варшава |
| 21.XI | Бельск |
| 20.XII | Орля |

**1653**

| | |
|---|---|
| 9.I | Пётркаў-Трыбунальскі |
| II | Вільня |
| 29.IV | Сялец |
| Каля 19.VIII | Львоў |
| 20.VIII | прыехаў у Львоў, у лагер пад Глінянамі |

| | |
|---|---|
| Каля 1.IX | Рагатын |
| 3.IX | Галіч |
| 3—15.IX | Падгайцы, Вішнёўчык, Янаў, Прабужна, Арынін |
| 16.IX | прыехаў пад Камянец-Падольскі |
| 21.IX | прыехаў з каралём у Камянец |
| 30.IX | прыехаў да Гумянца па дарозе ў Бар і Брацлаў |
| 1.X | прыехаў пад Зелянцы |
| 1—3.X | лагер каля Зелянцоў |
| 3.X | адпраўка ў Бар |
| 8.X | прыбыў пад Жванец |
| 8.X—15.XII | лагер каля Жванца |
| 24.XII | прыехаў у Львоў |

**1654**

| | |
|---|---|
| 24.XII.1653—3.I.1654 | Львоў |
| 3.I | выехаў з Львова |
| 9.I | Замасць |
| Каля 9—10.I | Люблін |
| 10.I | Старая Вёска |
| I—II | Брэст-Літоўскі, Сялец, Слуцк |
| 28.II | Капыль |
| III | Варшава, на сойме |
| 7.IV | Старая Вёска |
| IV | Варшава |

| | |
|---|---|
| 15.VI | Сялец |
| 18.VI | Слуцк |
| VII | Варшава, удзельнічаў у надзвычайным сойме, які закончыўся 20 ліпеня |
| 26.VII | Варшава |
| Пасля 24.VIII | лагер войска літоўскага пасля бітвы пад Шапялевічамі |
| 9.IX | Капыль |
| 15—16.IX | Менск (сустрэўся з Янушам Радзівілам) |
| 16—17.IX | Слуцк |
| 23.IX | Слуцк |
| 12.XII | Менск |

**1655**

| | |
|---|---|
| 14.I | Новы Быхаў |
| 17.II | удзельнічаў у аблозе Магілёва |
| 1.V | адступаў з-пад Магілёва |
| Пачатак V | Барысаў (развітаўся з князем Янушам Радзівілам) |
| V—15.VI | Слуцк |
| 4.VII | Слуцк |
| 21.VII | Карэлічы |
| 28.VII | Вільня |
| Каля 26.VIII | Падляшша |
| 12.IX | Бранск (Падляшскі) |

| | |
|---|---|
| 17—18.IX | лагер пад Зашкавам |
| 7.X | лагер пад Енджаёвам |
| 16.X | Енджаёў (знаходзіўся ў штаб-кватэры шведскага караля) |
| 9.XI | Тыкоцін |
| Каля 20.XI | лагер у Завыках пад Суражам |
| Каля 25.XI | Боцькі |
| XI—XII | Замбраў, Востраў-Мазавецкі |
| 31.XII | Пасленк |

**1656**

| | |
|---|---|
| 5.I | Фрыдлянд над Лынай |
| 13.I | Грунгаўн |
| 16.I | прыехаў у Каралявец-Кніпавы |
| 27.I | Сенпопаль |
| 30.I—7.II | Каралявец |
| 17.II | Камянец-Мазавецкі |
| 20.II | Старая Вёска |
| 26.II | Гарадок-над-Бугам пад Драгічынам, Высокае-Мазавецкае |
| 26.II | Тыкоцін (дапамога замку і ўваход у яго) |
| 28.II | Тыкоцін |
| 5—6.III | Нур |

| | |
|---|---|
| 11.III | пад Янавам-Падляшскім разбіў Сапегаву харугву |
| 12.III | пацярпеў паразу пад Янавам-Падляшскім |
| 13.III | Тыкоцін |
| 23—25.III | Рогаў |
| 30.III | прыехаў у Камянец-Літоўскі |
| 31.III—1.IV | Камянец-Літоўскі |
| 1.IV | выхад да Чарнаўчыц |
| 4.IV | Высокае-Літоўскае |
| Каля 5.IV | захоп замка ў Янаве-Падляшскім |
| 6.IV | Мельнік, Валейна, блакада Брэста |
| 7.IV | Мельнік |
| Да 13.IV | выхад з Мельніка з войскам да Бяла-Падляскі |
| 15.IV | Пустэльнік каля Варшавы |
| 17.IV | злучэнне каля Варшавы са шведскім каралём (на другі дзень Вялікадня) |
| 23.IV | Ловіч |
| 24.IV | Клодава |
| 28.IV | Інавроцлаў, прыехаў у Пакасць |
| 11.V | прыехаў у Мальбарк са шведскім каралём |
| Каля 12.V | вітаў шведскую каралеву ў Эльблонгу |

| | |
|---|---|
| 16—18, 20.V | Мальбарк |
| 21.V | Фордан |
| 30.V | бітва пад Клецкам |
| 13.VI | каля вусця Віслы |
| 23—27.VI | Мальбарк |
| 27.VI | Пасленк |
| 29.VI | Прэзмарк |
| 6.VII | Шрэньск |
| 8.VII | Новы Двор |
| 10.VII | Пултуск, у паходзе на дапамогу Тыкоціну |
| 22—27.VII | лагер пад Новым Дварам |
| 28—30.VII | удзельнічаў у бітве пад Варшавай |
| 7.VIII | Варшава |
| VIII (да 27.IX) | Голюб |
| 5.IX | Шрэньск |
| 6.IX | у паходзе на дапамогу Тыкоціну, Седльцы паміж Прасньшам і Новаградам |
| 14.IX | Новаград, Тыкоцін |
| 15.IX | Каршэле (магчыма, Харзэле) |
| 25.IX | Візна |
| 29.IX | Вонсаш |
| 5—7.X | лагер Мяцей пад Райградам |
| 8.X | бітва пад Просткамі |
| 19—20.X | літоўскі лагер пад Элкам |
| 22.X | бітва пад Філіпавам |

| | |
|---|---|
| 23.X (нядзеля) | выехаў са шведскага лагера ў Каралявец |
| 28.X | Каралявец |
| 31.X | Лабёва (разам з курфюрстам) |
| 9.XI | Фромбарк (Фраенбург) |
| 11.XI | Пасленк |
| 17.XI | Каралявец |
| 1.XII | Лабёва |
| 2.XII | Эрдэн |
| 5, 7.XII | Лабёва |

**1657**

| | |
|---|---|
| 7, 21.I | Лабёва |
| 6—9.II | Лабёва |
| 13.II—7.VI | Каралявец |
| 20.VI | Тыльжа, Вількішкі каля Тыльжы (Тыльзіт — *Рэд.*) |
| 20.VI | вярнуўся ў Тыльжу |
| 28.VI | Каралявец |
| 30.VI | Тыльжа |
| 4.VII | Прэзмарк |
| 8, 20.VII | Каралявец |
| 6.VIII | Лабёва |
| 30.VIII | Каралявец |
| 11.IX | Каралявец |
| 16.IX | Каралявец |
| 18—19.IX | Велава |
| 21, 25—26, 28.IX | Каралявец |
| 11, 12, 15.X | Каралявец |

| | |
|---|---|
| 30.X—6.XI | Быдгашч |
| 14.XI | Прабуты |
| 24—25.XI | Каралявец |

**1658**

| | |
|---|---|
| 9.XII.1657—21.III.1658 | Каралявец |
| 8.IV | Каралявец |
| 4, 5, 13, 20.V | Каралявец |
| 3, 22.VI | Каралявец |
| 8—15.VII | Каралявец |
| 14.VIII | прыехаў у Варшаву на сойм |
| 29.VIII | Шчытна |
| 7.IX—19.X | Каралявец |
| 25.X | выхад з Пасленка ў Ружанец |
| 28.X | лагер пад Ружанцам |
| 31.X—3.XI | лагер пад Новым Дваром на Жулавах |
| 8—17, 20.XI | лагер пад Фішавам, на тракце паміж Эльблонгам і Мальбаркам |
| 27—28.XI | Пасленк |
| 6.XII | Каралявец |

**1659**

| | |
|---|---|
| 21, 29—31.I | Каралявец |
| Каля 3.II | Каралявец |
| 4.II | Брандэнбург |
| Каля 5—13.II | Каралявец |
| 17.II | Нойгаўзэн |

| | |
|---|---|
| 19.II—22.VI | Каралявец |
| 9.VII | Арнета |
| 28—30.VII | лагер пад Меншай Жулавай (Марвіца Малая) |
| 31.VII—12.VIII | лагер пад Гіршфельдам (Ялонкамі) |
| 16.VIII | лагер пад Гейлігенвальдэ |
| 20—21.VIII | Лессан |
| 31.VIII | Ольштын |
| 3—24.IX | Каралявец |
| 5—10.X | Клайпеда |
| 11.X | Лібава |
| 12.X | (лагер?) пад Лібавай |
| 13.X | Лібава |
| 13—19.X | быў у лагеры пад Гробінам |
| 22—23.X | Лібава |
| 26.X | Паланга |
| 26.X—9.XI | Клайпеда |
| 16, 18.XI | Каралявец |
| 22, 28.XI | Бранева |
| 29.XI | прадмесце Эльблонга |
| 4, 6, 15, 22.XII | Каралявец |

**1660**

| | |
|---|---|
| 2, 13.I | Каралявец |
| 17.I | Ілава-Пруская |
| 8.II | Каралявец |
| 31.III—2.IV | Каралявец |
| 5.IV | выехаў з Караляўца |

| | |
|---|---|
| Каля 19.IV (чатыры дні) | Гданьск |
| 30.IV | Слупск |
| 4.V | прыехаў у Берлін |
| 22.V | выехаў у Вітэмберг і Ліпск |
| ? | Дрэздэн і Пейц |
| ? | Пейц |
| 4—11, 20, 28.VI | Берлін |
| 15, 20.VII | Берлін |
| 9, 16, 20, 23, 27.VIII | Берлін |
| 1.IX | выехаў з Берліна |
| 22.IX | Бранева |
| 5, 11, 14, 17, 29.X | Пасленк |
| 1—10.XI | Пасленк |
| 10.XI | карчма над Пасарыяй, Арнета |
| 11.XI | Арнета, Гурава-Ілавецкая |
| 12.XI | Гурава-Ілавецкая, у пана Крэйца |
| 13.XI | у пана Крэйца, Ілава-Пруская |
| 14—30.XI | Ілава-Пруская |
| 1.XII | Ілава-Пруская, Кнаўтэн, Каралявец |
| 2—11.XII | Каралявец |
| 11—15.XII | Лабёва |

**1661**

| | |
|---|---|
| 15.XII.1660—3.I.1661 | Каралявец |

| | |
|---|---|
| 4.I | Каралявец, Шпітэльгоф, Каралявец |
| 5—11.I | Каралявец |
| 11—13.I | Лабёва |
| 13—24.I | Каралявец |
| 24—26.I | Лабёва |
| 26.I—12.II | Каралявец |
| 12—15.II | Лабёва |
| 15.II | Каралявец, у пана оберегермайстра Гала |
| 15—25.II | Каралявец |
| 26.II | Шпітэльгоф, Каралявец |
| 26.II—17.III | Каралявец |
| 17—18.III | Тры Карчмы |
| 18.III | Шонбрух |
| 19.III | Сэнпопаль, Кентжын |
| 20.III | Кентжын, Мікалайкі |
| 21.III | Мікалайкі, Піш |
| 22.III | Піш, Белая Піска, Грабава |
| 23.III | Грабава, Кулакоў, Чарноцін |
| 24.III | Чарноцін |
| 25.III | Чарноцін, пераправіўся праз Нарву, Ломжа, Замбраў |
| 26.III | Замбраў, Вялікае Красава, Даманава |
| 27.III | Даманава, Бранск |
| 28—30.III | Бранск |
| 30.III | Шумкі ў Крыштофа Жэльскага, Орля |

| | |
|---|---|
| 31.III | Орля |
| 1.IV | Орля, Апака Вялікая (сустракаўся з Паўлам Сапегам), Орля |
| 2.IV | Орля, пераправіўся праз Нарву, Заблудаў |
| 3—5.IV | Заблудаў |
| 5.IV | Бранск |
| 6.IV | Заблудаў, Гранна-над-Бугам, Купетын, Старая Вёска |
| 7.IV | Старая Вёска, Добрае, Станіслававa |
| 8.IV | Станіслававa, Акунёва, Скарышаў, Варшава |
| 9—12.IV | Варшава |
| 12—13.IV | Казунь |
| 13.IV | пераправўляўся пад Закрочымам, Варона |
| 14.IV | Варона, Банткова |
| 15.IV | Банткова, Ілава |
| 16.IV | Ілава, абедаў у Клакоцкага, Дзялдова |
| 17.IV | Дзялдова |
| 18.IV | Дзялдова, Дуброўна (у пана Фінцка), Альштынак |
| 19.IV | Альштынак, Варкалы, Добрае Места |
| 20.IV | Добрае Места, Лідзбарк-Вармінскі, Бартошыцы |

| | |
|---|---|
| 21.IV | Бартошыцы, Мільхаўзэн, Кнаўтэн (у ген. А. Калькштэйна), Каралявец |
| 22—25.IV | Каралявец |
| 25.IV | Шпітэльгоф, Пілава |
| 26.IV | Пілава |
| 27.IV | Шпітэльгоф, начлег |
| 28.IV | вяртаўся з Пілавы ў Каралявец |
| 29.IV—7.V | Каралявец |
| 7—10.V | Лабёва |
| 10—16.V | Каралявец |
| 16.V | Фрыдрыхсбург |
| 17—18.V | Каралявец |
| 18—19.V | Гермаў, на ловах |
| 19—31.V | Каралявец |
| 31.V—1.VI | Кройцбург |
| 1.VI | Гурава-Ілавецкая, Лідзбарк-Вармінскі |
| 2.VI | Лідзбарк-Вармінскі, Шчытна, Пурга |
| 3.VI | Пурга, Улессе, Янава |
| 4.VI | Янава, Імхова, Бышава |
| 5.VI | Бышава, Пултуск |
| 6.VI | пераправіўся праз Буг каля Непарэнта, Непарэнт |
| 7.VI | Непарэнт, Жэрань, Бяляны (перапраўляўся на баржы), выехаў у Варшаву на сойм |

| | |
|---|---|
| 8.VI—24.VII | Варшава |
| 24.VII | Дзяканаў |
| 25.VII | Дзяканаў, Папельзна |
| 26.VII | Папельзна, Цеханаў, Космава |
| 27.VII | Космава, Янава, Ядвабнае |
| 28.VII | Ядвабнае, Барчэва |
| 29.VII | Радастава, Лідзбарк-Вармінскі |
| 30.VII | Лідзбарк-Вармінскі, Гурава-Ілавецкая |
| 31.VII | Гурава-Ілавецкая, Кройцбург |
| 1.VIII | Кройцбург, Каралявец |
| 2—8.VIII | Каралявец |
| 8—11.VIII | Лабёва |
| 11—15.VIII | Каралявец |
| 15—17.VIII | Лабёва, на вяселлі Сулоўскага |
| 17—22.VIII | Каралявец |
| 22—24.VIII | Лабёва, быў на ловах |
| 24—27.VIII | Каралявец |
| 27—31.VIII | Брандэнбург |
| 31.VIII—4.IX | Брандэнбург, да 1.IX на ловах |
| 4.IX | Андэбург, на ловах |
| 5—12.IX (?) | быў на ловах |
| 12.IX | Knaўтэн, начлег |
| 13.IX | Кройцбург, начлег |
| 15.IX | вярнуўся ў Брандэнбург |

